*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай,*
*каб не ўмёрлі!* ***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***

# НАША СЛОВА




№1. САКАВІК. 1990. Бюлетэнь Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Цана 20 кап.



Францішак Скарына. Малюнак М. Купавы.

## ДАРАГІ ЧЫТАЧ!

У тваіх руках першы нумар «Нашага слова» — выдання Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Яшчэ адно сціплае пацверджанне таго, што працэс вяртання законных правоў роднаму слову на Беларусі патроху набірае сілу. А ці пачуецца наша мова на сваёй зямлі гаспадыняй — на гэта адказ адзін: толькі тады, калі клопат пра яе лёс стане ўсенародным.

Першы выдатны крок на гэтым шляху зроблены — прыняты Закон, якім беларускай мове нададзены статус дзяржаўнай. Але гэта менавіта крок першы і не самы цяжкі. Галоўнае, у тым ліку і найбольшыя цяжкасці,— наперадзе. Закон прымаецца для таго, каб ягоны змест стаў жыццёвай рэальнасцю. Мяркуючы па тым, з якім боем праходзіў ён на камісіях і на сесіі Вярхоўнага Савета, практычнае ўвядзенне артыкулаў Закона ў дзеянне можа выклікаць моцнае супраціўленне. Зразумела, з боку тых, хто на словах і за дэмакратыю, і за перабудову, і за інтэрнацыяналізм, і за росквіт Беларусі,— але толькі каб усё гэта... без беларускай мовы, а значыць — і без беларускай нацыянальнай культуры. Адным словам — за Беларусь без беларусаў. Бо калі ў народа няма сваёй мовы, сваёй мастацкай культуры, сваёй гістарычнай памяці, свайго ўласнага духоўнага аблічча,— то а што тады ў яго ёсць, каб называцца народам?

Дык вось найпершы і найважнейшы сёння абавязак кожнага сябра ТБМ — усімі сіламі садзейнічаць таму, каб наша родная мова вярнула сабе страчанае пад ударамі лёсу становішча мовы дзяржаўнай. Вядома ж – спосабамі і шляхамі, якія будуць характарызаваць нашу нацыю як сапраўды культурную, цывілізаваную. Вядома ж — у добрым узаемаразуменні і сяброўстве з мовамі ўсіх іншых нацыянальных груп насельніцтва, якія здаўна жывуць на тэрыторыі Беларусі.

Гэта ж ёсць найпершым і найгалоўным заданнем бюлетэня ТБМ «Наша слова». Усе яго рубрыкі і публікацыі будуць працаваць на ўздым аўтарытэту і прэстыжу беларускай мовы, на выхаванне павагі і любові да яе, на тое, каб яна паўнапраўна, свабодна і смела гучала на зямлі яе вялікага стваральніка — беларускага народа. Як наша выданне будзе спраўляцца з гэтым — перш за ўсё залежыць, дарагі чытач, ад цябе. Ад таго, як ты будзеш падтрымліваць і прапагандаваць «Наша слова», як будзеш забяспечваць яго цікавымі, змястоўнымі, мэтанакіраванымі допісамі і артыкуламі. На вялікую творчую дружбу з табою і разлічваем мы, верачы ў доўгае жыццё «Нашага слова». Верачы ў вечнае жыццё Нашага Слова!

# ЗВАРОТ

## да грамадзян Беларускай ССР, да беларусаў, якія жывуць за межамі рэспублікі, да ўсіх прыхільнікаў беларускага слова

Мы, пасланцы рабочых, сялян, інтэлігенцыі, людзі розных прафесій, партыйныя і беспартыйныя, атэісты і набожныя, заклапочаныя становішчам беларускай мовы ў рэспубліцы, сабраліся на Устаноўчы з'езд і стварылі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

Наша родная мова — першаасnова культуры, духоўнай самабытнасці, велічы і нацыянальнага яднання беларускага народа — прыйшла з сівой мінуўшчыны жывымі рысамі на бярозавай кары, выбітымі знакамі на Рагвалодавых камянях, пісьмёнамі на пергаменах, Скарынавым друкам. Яна дзяржаўна гучала ў эпоху Сярэднявечча і Адраджэння на вялікіх абшарах Еўропы, яна пасля стагоддзяў занападу і прыгнёту зноў адрадзілася, атрымаўшы ў часы, асветленыя ленінскім геніем, канстытуцыйнае паўнамоцтва як дзяржаўная ў нашай рэспубліцы, як роўная і паўнапраўная ў брацкай сям'і моваў народаў СССР.

І таму з асаблівым болем даводзілася бачыць, як наша, адна з найбольш старажытных і багатых славянскіх моў, у выніку разгулу сталінскіх рэпрэсій, чыноўніцка-бюракратычнай недальнабачнай палітыкі страчвала і страціла сваё дзяржаўнае значэнне, апынулася на гранічнай мяжы свайго існавання.

Адзначаючы, што беларусы, з'яўляючыся карэннай нацыяй БССР, тут і толькі тут могуць поўна і плённа рэалізаваць свой духоўны і культурны патэнцыял, мы звяртаемся да ўсіх грамадзян рэспублікі — тых, якія нарадзіліся на беларускай зямлі, і тых, якія прыехалі сюды з іншых краёў, каб супольна працаваць і памнажаць нашы агульныя матэрыяльныя і духоўныя набыткі,— і горача заклікаем з разуменнем і адчуваннем гістарычнай адказнасці паставіцца да катастрафічнага становішча беларускай мовы на Беларусі — падтрымаць шматлікія прапановы грамадскасці аб неадкладным наданні ёй дзяржаўнага статуса ў рэспубліцы.

Адначасова заклікаем з пашанаю ставіцца да культуры і мовы людзей усіх нацыянальнасцей Беларусі. Дапаможам ім развіць сваю культуру і мову і зробім усё, каб заахвоціць іх да авалодання моваю беларускага народа!

Мы звяртаемся да ўсіх беларусаў, якія жывуць па-за нашаю бацькаўшчынаю як у братніх рэспубліках Савецкага Саюза, так і за мяжою,— словам і чынам дапамагаць адраджэнню і развіццю мовы нашага шматмільённага народа, які вынес праз стагоддзі безліч пакут, здзекаў, прыніжэнняў.

Хай жыве запаветам у нашых сэрцах напамін Вялікага Скарыны пра любоў і замілаванасць да родных мясцін і роднага слова, а таксама палымяны Багушэвічаў наказ: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі!»

Дарагія сябры! Уступайце ў Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны! Усюды стварайце яго суполкі — у гарадах і вёсках, на заводах і фабрыках, ва ўстановах і арганізацыях, у школах і вучылішчах, тэхнікумах і ВНУ! Растлумачвайце ўсім мэты і задачы Таварыства! Удасканальвайце веданне беларускай мовы! Сваім асабістым прыкладам заахвочвайце, каб беларуская мова ў будзень і свята гучала ва ўсіх сферах нашага жыцця.

Няхай жыве і квітнее беларуская мова — раўнапраўная сястра ў вялікай моўнай сям'і свету!

Мінск, 27 чэрвеня 1989 года.

Янка КУПАЛА

## РОДНАЕ СЛОВА

Магутнае слова, ты, роднае слова!
Са мной ты на яве і ў сьне;
Душу мне затрэсла пагудкаю новай,
Ты песень наўчыла мяне.

Бясьсьмертнае слова, ты, роднае слова!
Ты крыўды, няпраўды змагло;
Хоць гналі цябе, накладалі аковы,
Дый дарма: жывеш, як жыло!

Свабоднае слова, ты, роднае слова!
Зайграй ты сьмялей, весялей!
Хоць гадзіны сыкаюць, кружацца совы,
Жывеш ты на хвалу людзей.

Загнанае слова, ты, роднае слова!
Грымні-ж над радзімай зямлёй:
Што родная мова, хоць бедная мова,
Мілей найбагатшай, чужой!

1908.

Янка Купала «Спадчына», Менск, 1922.



Устаноўчы з'езд Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

Фота А. Каляды.

# ПРАЦЫ НЕПАЧАТЫ КРАЙ

Калі нядаўна карэспандэнт тэлебачання спытаўся ў мяне, якія падзеі апошняга часу я лічу найбольш памятнымі і важнымі для сябе, я ў ліку першых прыгадаў стварэнне Таварыства беларускай мовы. З асаблівым пачуццём успамінаю той летні дзень, той З'езд — адначасова і ўрачыста-хвалюючы і дзелавы, палітычна завостраны...

Як мы ўжо мелі магчымасць пераканацца, стварэнне Таварыства апраўдана, яно ўжо дзейнічае, працуе, робіць сваю высакародную справу — на ніве нацыянальнага адраджэння. Ёсць тут, безумоўна, і будуць надалей свае цяжкасці, перашкоды, праблемы. Як арганізацыйна-практычнага, так і маральнага характару. Няцяжка прадбачыць, што з цягам часу задачы і функцыі ТБМ будуць мяняцца, эвалюцыянаваць, напаўняцца новым зместам. Ды калі мець на ўвазе сучасны момант, то, на маю думку, галоўным клопатам ТБМ павінна быць ажыццяўленне Закона аб мовах, г. зн. мэтаскіраваная, сістэматычная, цярплівая штодзённая праца па правядзенню ў жыццё заканадаўчага акта, якім беларускай мове нададзены статус дзяржаўнай.

Хацеў бы яшчэ як рэдактар «ЛіМа» выказаць спадзяванне, што газета будзе і надалей весці рубрыку, прысвечаную ТБМ імя Францішка Скарыны, і будзе з задавальненнем супрацоўнічаць з новым выданнем — з бюлетэнем «Наша слова».

Анатоль ВЯРЦІНСКІ.



# КАБ ДЗЕЦІ БЫЛІ ПІСЬМЕННЫЯ

Наша дачка Вераніка, якая вучыцца ў дзевятым класе, ужо на працягу пяці гадоў вымушана ездзіць штодня ў Навасельскую школу, за 20 кіламетраў ад Мінска. Прычынай гэтага з'яўляецца тое, што ў сталіцы Беларусі па сутнасці і да сённяшняга дня няма ніводнай беларускамоўнай школы.

Калі мы пасылалі дачку ў Навасельскую школу, дык спадзяваліся, што яна будзе вучыцца на роднай мове, выхоўвацца ў беларускамоўным асяроддзі. Спачатку і сапраўды большасць прадметаў выкладалася тут па-беларуску. Але з кожным годам іх рабілася ўсё менш і менш, настаўнікі тлумачылі іх дзецям па-руску, хоць падручнікі ў вучняў былі беларускія, як напрыклад, геаграфія і хімія. З-за т.зв. «аб'ектыўных» прычын беларускамоўных урокаў стала менш, чым рускамоўных. Ну, а калі ўлічыць, што фактычна ўсе мерапрыемствы ў школе праводзяцца не пабеларуску, або, як і некаторыя ўрокі, на нейкай «трасянцы», робіцца балюча і за мову, і за культуру, і за будучыню нашых дзяцей. Дзеці між сабою размаўляюць на «трасянцы», настаўнікі ставяцца да гэтага абыякава, не звяртаюць увагі на моўную культуру. Не заўважаецца, каб і адміністрацыя школы рабіла дзейсныя захады да выпраўлення гэтага рэгрэсіўнага становішча.

Калі ж і надалей гэткае становішча не зменіцца, дык праграма адраджэння роднае мовы застанецца толькі фікцыяй. Ствараецца ўражанне, што працэс навучання ў гэтай школе робіцца некіруемым, што навучанне на роднай мове ігнаруецца ўвогуле. Мы ўстурбаваны лёсам не толькі сваёй дачкі, бо яна ўжо хутка скончыць вучобу ў гэтай школе, але і тых шматлікіх дзяцей, якія вучацца ў малодшых класах. Ім жа давядзецца ўздымаць аблогі, здзірванелыя за дзесяцігоддзі, а ведаў для гэтага будзе мала.

Звяртаемся да рэдакцыі «Нашага слова» зрабіць захады наконт гэтага, каб мы з большай надзеяй маглі глядзець на будучыню нашай Бацькаўшчыны.

Т. і А. ЦЫРКУНОВЫ.

# РОДНАЯ МОВА

Родная мова пранікае ў чалавека ад Зямлі, на якой ён нарадзіўся, ад людзей, сярод якіх ён жыве, ад бацькоў, якія далі яму жыццё і вырасцілі. А ці можа мова стаць роднай для чалавека, якога надоўга адарвалі ад яго каранёў: зямлі, народа, а часткова і ад бацькоў? Такі лёс напаткаў і мяне, бо аж 40 гадоў з маленства я не жыў на Беларусі. Нягледзячы на гэта, маёй роднай мовай усё ж такі стала беларуская. Я шчаслівы, што магу думаць і размаўляць на мове маёй Радзімы, майго народу і маіх бацькоў, на мове, на якой друкавалі свае лепшыя думкі многія нашы славутыя землякі, пачынаючы з Францішка Скарыны. Я задаволены, што магу ў арыгінале чытаць цудоўныя вершы і апавяданні Янкі Купалы, Якуба Коласа, майго дзядзькі Максіма Гарэцкага, многіх сучасных беларускіх пісьменнікаў. Беларуская мова спалучае ў сабе дзіўную мяккасць, а зрэдку і цвёрдасць, замілаваную пяшчотнасць і шырокую магутнасць, плаўную пявучасць і хуткую дынамічнасць, старажытнасць і маладосць... У гэтай мове гучыць сэрца і душа народа добрага, працавітага, сціплага і сумленнага.

Радзім ГАРЭЦКІ.

# ЦЯРНІСТЫ ШЛЯХ ДА МЭТЫ

Мінула пяць гадоў перабудовы, а ў Мастах з іх 16-цю тысячамі жыхароў няма ніводнай беларускамоўнай школы, затое рускамоўных — пяць. Нават класаў — «рэзервацый», якімі цяпер гэтак модна хваліцца, тут няма. Сёння лёс беларускай мовы ў раёне часта вырашаюць тыя, хто так ці гэтак спрыяў пераўтварэнню беларускіх школ у рускамоўныя, энергічна выкарчоўваў беларускае слова ў школах.

Больш як паўгода дамагаюся ад загадчыка аддзела прапаганды Мастоўскага РК КПБ І. Улановіча і сакратара РК КПБ Т. Мурынай, каб стварыць у раёне арганізацыйны камітэт Таварыства беларускае мовы. Нарэшце дамогся: была дадзена згода на абмеркаванне 18 студзеня гэтае праблемы. Але І. Улановіч усё ж кінуў слоўцы: «Гэта клопат не партыі, а ваш!»

У апошні час шмат дзе асаблівая ўвага надаецца нацыянальнаму пытанню. Але вось як: у парадку дня сходаў, нарад і інш. значыцца пытанне «Интернациональное и патриотическое воспитание». Звычайна тут вядзецца размова пра значэнне рускай мовы для кожнага беларуса, пра ваенны патрыятызм, нават хтосьці з функцыянераў зрэдку адважыцца сказаць пра адраджэнне «белорусского языка». Дамінуючую ролю надаюць ваенна-патрыятычнаму выхаванню моладзі. Затое не даводзілася чуць, каб вялася дзе гаворка пра выхаванне павагі і спагадлівасці да людзей, дабрыні, міласэрнасці, пра ўсё тое, што вельмі патрэбна ў наш час.

А мо і сапраўды, навошта нам тая духоўнасць асобы? Без яе ж лягчэй пражыць, быць пустадушным, нігілістам, рэнегатам, зневажаць і высмейваць матчыну мову. Так ці гэтак спрыяе гэтаму і школа. Ці ж шмат знойдзеш у праграме па беларускай літаратуры твораў, якія б выхоўвалі дабрыню, спагаду да чужой бяды, чужога болю? Затое нянавісць, варожасць да ўсяго таго, што не ўкладваецца ў стэрэатыпы афіцыйнага мыслення,— пераважае ў тэматыцы праграмы па беларускай літаратуры ў сярэдняй школе.

Можна меркаваць, якое спусташэнне робіць усё гэта ў маладых душах, які плён дасць гэткае насенне. Ці ж шмат застанецца такіх, якія пранясуць праз усё сваё жыццё штосьці святое ў сэрцы: чалавечны патрыятызм, дабрыню, міласэрнасць? Усе гэтыя рысы ўзаемазвязаныя, адна без другой існаваць не могуць.

Куды ж вядуць нас «высокаідэйныя» чыноўнікі-бюракраты? Ці не ў бездухоўную прорву, з якой не будзе ратунку, ці не да нацыянальнага скону, пасля якога застануцца індывідуумы «з ніадкуль»?

Алесь БЕЛАКОЗ,
настаўнік Гудзевіцкай школы Мастоўскага раёна.

## КУЛЬТУРА МОВЫ

Анатоль КЛЫШКА

# «ЯК СПРАВЫ?» — «ЯК ЗЛЕВА, ТАК І СПРАВА»

Так некалі, у дваццатыя гады, смяяліся з тых, хто забываўся, што ў нас пасля прывітання звычайна пытаюцца: «Што чуваць? Што новага (дома, на рабоце)? Як жывеш (жывяце)? Як жывыздаровы? Як маешся (маецеся)? Як працуецца?» А ў дзіцяці ці жартам і ў дарослага: «Як гадуешся?»

«Як справы?» — гэта штучная калька з рускай — «Как дела?» Хоць «дело» па-беларуску нярэдка можна перакласці «справаю», аднак не заўсёды. Вазьміце рускі выраз «то и дело». Не перакладзеш яго «то і справа» — недарэчнасць. Трэба: раз-пораз, раз за разам, сюд-туд, шторазу, бесперастанку, увесь час і інш.

Найбольш натуральна ў нашай мове слова справа гучыць у значэнні вучэння, ідэй: Ён быў адданым змагаром за справу Леніна; у значэнні збору дакументаў, што адносяцца да нейкага факта ці асобы: асабовая справа. Адсюль і службовая пасада — справавод. Адсюль і справаводства.

Гэтак жа да месца яно і ў значэнні судовага разбору: судовая справа, крымінальная справа.

У такіх выпадках слова справа дарэчы.

Але цяпер яго пачалі ўжываць незвычайна шырока — як амаль поўную адпаведнасць рускаму дело. З-за абагуленасці рускага адпаведніка справа была вельмі папулярная ў часы застою, калі гэтым словам добра было прыкрываць усялякі неакрэслены няпэўны занятак, надаючы яму выгляд работы. Але ў жывой мове ў нас такое шырокае ўжыванне справы ўспрымаецца нечым штучным, наносным, нежывым.

Замест абагуленага назоўніка дело беларуская мова стараецца заўсёды ўжыць канкрэтныя яго адпаведнікі. Нават у такім выразе — папка для спраў — што зусім правільна — лепш будзе, калі сказаць па-беларуску: папка для папер, папка для дакументаў.

**Первым делом** (найперш, перш за ўсё, перш-наперш, перадусім, сама перш, спярша) разгледзім збольшага гэтыя адпаведнікі.

Найчасцей за словам дело, вядома ж, устае работа, праца:

За дело! Да працы! (Не блытаць з выразам: за дело, по делом ему — па заслугах, справядліва, так яму і трэба).

Приняться за дело — узяцца за работу.

Он жаден до дела — ён да работы аж гарыць.

Дел по горло — работы па вушы.

Падчас мову ажывіць блізкая прыказка, прымаўка.

Он занят делами по горло — Ходзячы есць, а стоячы спіць.

Але, вядома, калі гэта акурат стасуецца да таго, пра што гаворыцца.

Дела занимают много времени — работа адбірае шмат часу.

Занять учеников делом — даць вучням работу.

По делу будет видно — работа пакажа.

Без дела — (пра людзей) без работы, нічога не робячы, гуляючы. (Але аб рэчах: утварь лежит без дела — начынне ляжыць без патрэбы, без ужытку).

Между делом — між работаю, мімаходзь, між іншым.

Это лёгкое дело — гэта лёгкая работа, гэта лёгка зрабіць.

У апошнім прыкладзе прыметнік замяняюць, як бачым, прыслоўем, а назоўнік — дзеясловам з падобным коранем.

Пры перакладзе дела ў значэнні роду заняткаў, спецыяльнасці, галіны ведаў ці навыкаў (разам з адпаведным азначэннем) ужываецца ў нас побач са справаю, рамяством, майстэрствам і цэлы шэраг спецыфічных назоўнікаў.

Гончарное дело — ганчарства.

Плотническое дело — цяслярства.

Наяўнасць такіх слоў у нашай мове, як ткацтва, кравецтва, мулярства, малярства, слясарства, друкарства і г.д., дазваляе ў шмат якіх выпадках перадаваць падобныя рускія двухслоўныя выразы адным словам.

Часта дело абазначае клопат, патрэбу, просьбу, інтэрас. Тады яно і перакладаецца гэтымі словамі.

Без дела не входить — без патрэбы не заходзіць.

У меня к вам дело — у мяне да вас просьба.

Неотложное дело — пільная, крайняя, неадкладная просьба, патрэба.

Моё (твоё, ваше и т.д.)) дело — мой (твой, ваш і г.д.), клопат.

Не моего (твоего, нашего и т.д.) ума дело — не з маім (тваім, нашым і г.д.) розумам брацца за гэта, не мой (твой, наш і г.д.) клопат.

С каким делом? — З якой патрэбаю (просьбаю, клопатам і г.д.)? З чым прыйшлі? Што ў вас да мяне? — у залежнасці ад сітуацыі, ад яе атмасферы, ад тых людзей, што гавораць, могуць быць самыя розныя адценні такіх пытанняў.

А мне какое дело? — А мне які клопат? А мне што да таго? Гэта мне не абходзіць! От наўда мне! А мне гэта ані ў пяце, ані ў галаве! А мне хоць трава не расці!

Вельмі важна правільна расчытаць, адчуць жывое напаўненне ў кожным канкрэтным разе слова **дело**: дзе яно азначае падзею, здарэнне, затрымку, судовы працэс, бітву, баталію і г.д.

Умно вести дело в суде — з розумам весці працэс.

В деле под Барановичами — у бітве пад Баранавічамі.
Темное дело — цёмная гісторыя.
Дело плохо — непярэліўкі.
Это наше дело — гэта наша задача.
Безвыходное дело — нявыкрутка, ніякага выйсця, ніякай рады, нічога не не парадзіш, нічога не зробіш.
Правое, благородное дело — справядлівая, высокая мэта.
Наше дело правое! — Праўда на нашым баку!
Поймать на горячем деле — заспець на цёплым следзе.
Долгое дело — доўгая (вялікая) песня.
А на деле...— А напраўду (а ў жыцці, а тым часам)...
Щепетильное дело — далікатная рэч.
Вот в чем дело — вось у чым прычына, загвоздка.
Дело за вами — уся надзея на вас.
За мной дело не станет — затрымкі з-за мяне не будзе.

З-за сваёй абагуленасці дело можа ў беларускай мове замяняцца займеннікам. Бо, як вядома, гэтая часціна мовы можа падмяняць і назоўнік, і прыметнік, і лічэбнік. Таму такія займеннікі, як усё, яно, гэта і інш., могуць добра спатрэбіцца пры перакладзе шырокаабагуленага дела.

Рассказал, как было дело — расказаў, як усё (яно, гэта) было.
Дело в том, что... Усё ў тым, што...
Не дело говоришь — не тое кажаш.
К тому дело идет — на гэта яно ідзе.
Улажу дело — ўладжу (зраблю) ўсё.
Дело пошло на лад — усё пайшло на лад.
Испортил дело — сапсаваў усё.
Тем дело и кончилось — на тым усё і скончылася.
Было дело — было такое.
Коснись дело тебя...— Калі б табе такое...
У тебя ко мне срочное дело? — У цябе да мяне нешта тэрміновае?
Дело поправімое — гэта можна папpaвiць.
Это не дело — так нельга, так не выйдзе, сядзеш макам. Куды гэта варта?
Дела как есть — усё па праўдзе.
Пры перадачы часу, абставін нейкай падзеі, дзеяння дело можна замяніць на гэта або апусціць.
Дело было осенью — гэта было ўвосень.
Дело к ночи, пора возвращаться— блізка ноч, пара вяртацца.
Дело шло к вечеру — бралася на адвячорак, было надвечар.
І яшчэ. Нярэдка рускае дело ў спалучэнні з прыметнікам выступае як выказнік або пабочнае слова са значэннем якраз гэтага ж прыметніка. І таму гэтае дело ў перакладзе можна апусціць.
Главное дело — галоўнае.
Известное дело — вядома, што й казаць.
Нелегкое дело — нялёгка.
Это совсем другое дело — гэта зусім іншае.
Это дело не шуточное — гэта не жарт(ы), не жартачкі.
Страшное дело — проста страх, страх адзін.

А ўвогуле цяжка ўсё ў жывой мове ўсё скласіфікаваць, раскласці па нейкіх палічках. Цікава бачыць, якая разнастайнасць замены ў нашай мове — назоўнікі, прыметнікі, займеннікі, дзеясловы, прыслоўі... А багацце сінонімікі!.. Ёсць прастора для разгарнення!
Пераклад — з'ява творчая (дело творческое), ён не церпіць дагматычнай абавязковасці. Ды розныя людзі за пэўным сказам не заўсёды бачаць адзін і той жа кантэкст, можна аб нечым і паспрачацца. Але адно (одно дело) — адценні, а другое (другое дело) — памылкі, штучнасць, ненатуральнасць...
Напрыканцы яшчэ жменька прыкладаў з перакладамі дела, як гэта мне бачыцца.

В чем дело? — Што такое? Што сталася? Што здарылася?
Вот так дело! — Вось дык маем!
Ближе к делу — без лішніх драбніц, карацей, не адхіляйцеся ўбок.
Да и в самом деле...— Ды яно і праўда... І сапраўды...
Ждем исхода дела — чакаем, чым скончыцца.
Это дело! — Гэта добра!
Есть такое дело! — Добра! Згода!
В чем дело! — Пра што вы кажаце (просіце)!
Он в курсе дела — ён пра гэта ведае.
Надо войти в суть дела — трэба разабрацца, што да чаго.
Дело твое — воля твая, твой клопат, ты сам сабе гаспадар (пан), як ты хочаш, глядзі сам.
Дело говоришь — праўду кажаш, добра кажаш, во-во, твая праўда, слушна кажаш.
Войти в дело — стаць супольнікам.
Влезть в дело — схаўрусавацца.
Не предрешая дела...—не забягаючы наперад...
Не суйся в чужие дела — не лезь не ў сваё.
Не берись не за свое дело — злазь з даху, не псуй гонтаў.
И дело с концом, и делу конец — на тым і канец.

## НІ НА КРОК АД КАЛЬКІ

Чытаю апавяданне: «Бабка пакрочыла...» Няўжо, думаю, тую бабку мабілізавалі? Не, бабуля ў творы ідзе на свінаферму. Далей бачу, што і сам апавядальнік за ёю «перакрочыў парог».
Не ў аднаго аўтара апошнім часам крочаць тыя, у каго і спрыту таго няма, і дзе так ісці ані не выпадае, бо каб крочыць, то і дарога павінна быць адпаведная, а тут калдобіны, лужыны, канавы...
А як дарэчы гэтае слова там, дзе ўрачыста ідуць, скажам, салдацкім крокам, бадзёра ў калоне, адбіваючы крок! У гэтым дзеяслове жыве моцная памяць пра «крок». І толькі ў такой хадзе, калі ён — цвёрды, ці шырокі, ці мерны — выразна паўтараючыся, адзначаецца, там крочаць. Дзе ж на гэты крок не зважаецца, дзе ён не падкрэсліваецца знарок, дзе крок кроку не роўны, там адвеку ў нас ступаюць, выступаюць, ходзяць, ідуць, тупаюць, тэпаюць, плятуцца, пхнуцца, цягнуцца, сунуцца, валакуцца, цёпкаюцца, цюпаюць, клыпаюць, дыбаюць, прастуюць, цалююць, джгаюць, сыплюць, чэшуць, шыбуюць і г.д. і г.д., залежна ад таго, стомленыя ці бадзёрыя, марудзяць ці спяшаюцца, цвярозыя яны ці выпіўшы... І таму, напрыклад, рускі сказ «Впереди отряда шагал барабанщик» толькі ў тым разе, калі хочуць асабліва падкрэсліць вайсковы ці парадны строй, перакладуць: «Наперадзе атрада крочыў барабаншчык». Калі ж гэтай патрэбы няма (бо гэта і само сабою разумеецца), больш натуральна будзе гучаць: «Наперадзе атрада выступаў (ішоў) барабаншчык». І таму, хоць можна крочыць нага ў нагу, звычайна ўсё ж ідуць (ступаюць) (нага) ў нагу.
І, скажам, у шолахаўскім тэксце, дзе імчыцца тачанка, «шагают мимо телеграфные столбы, без конца змеится дарога», кантэкст падкажа, каб па-беларуску гэтыя слупы, пэўна, беглі, а не «крочылі», гэтак жа, як у другой шолахаўскай фразе «Из-за Дона, с песков лимонных, сыпучих утро шагало» па-беларуску няблага, відаць, было б, каб гэтая раніца выступала, але толькі не крочыла.

## КРОПКІ НАД «І»

З ласкі некаторых аўтараў у беларускага чытача сёння замільгалі «кропкі» ў вачах. Для іх «кропка» ўжо не толькі вядомы са школы знак прыпынку, ці знак пры скарачэнні слова, або, скажам, графічны значок у алгебры, нотным пісьме, тэлеграфным кодзе і інш., альбо тая метка ці след, што пакінуты кончыкам алоўка, пяра, вастрыём іголкі і г.д., ці ўвогуле нешта маленькае, ледзь прыкметнае (напрыклад, кропкі птушак, парашутыстаў, убачаных здалёк).
У газетным рэпартажы раптам сустрэнеш «гандлёвую кропку», у ваенным апавяданні «агнявую кропку». А ў якой радыё- ці тэлеперадачы вынікне «чыгуначная» ці «вузлавая кропка». Хоць, здаецца, чым ты напоўніш або населіш «кропку», хто там утрымаецца на тым следзе ад кончыка пяра. Хіба мо неяк чэрці злоўчацца?
Лёгка бачыш тут механічны пераклад рускай «точки». А між тым усе гэтыя «точки» з рознымі азначэннямі — гандлёвая, стратэгічная і г.д. і г.д.— у беларускай мове маюць адпаведнікі са словам «пункт».
Мажлівыя ў рускай мове пары — «стратегическая точка» і «стратегический пункт», «кульминационная точка» і «кульминационный пункт» і г.д.— у беларускай маюць адзіныя адпаведнікі: «стратэгічны пункт», «кульмінацыйны пункт».
Увогуле значэнне беларускага «пункта», асабліва ў народных гаворках, куды шырэйшае, чым у рускага (пунктамі хапаў жывот, г. зн. час ад часу).
«Пунктам» перадаюцца і ўсе «точки» ў розных навуковых тэрмінах (точка кипения — пункт кіпення, точка опоры — пункт апоры, точка весеннего равноденствия — пункт вясновай раўнадзеннасці і г.д.).
«Точка» ў значэнні канкрэтнага мес-

*(Заканчэнне на 6-й стар.).*

# ПРА НАС І НАШУ МОВУ

**Фёдар ДАСТАЕЎСКІ**

Усякая здаровая і земская сіла верыць у сябе і ў сваю праўду, і гэта ёсць самая першая прыкмета здароўя народнага. Гэта народная вера ў сябе і ва ўласныя сілы — зусім не застой, а, наадварот, зарука жыццёвасці і энергіі жыцця і ні ў якім разе не выключае прагрэсу і вялікага поспеху. Без гэтай веры ў сябе не выстаяў бы, напрыклад, на працягу вякоў беларускі народ і не ўратаваў бы сябе ніколі.

***Адам* МІЦКЕВІЧ**

Вялікі прастор... займае край, абняты Дняпром, Чорны морам, Бугам і Нёманам. Ён даўно згубіў агульную назву, бо розныя пакаленні, якія жылі тут, не прызнаюць ужо імя славян за сваё родавае... Нарманы і ляхі прыходзілі сюды са сваёй уладай, і схіляліся яны то пад скіпетрам рускіх князёў, то пад уладай Польшчы. З той пары, калі іх заваяваў дом Рурыка, яны былі ў складзе рускіх земляў... Тут сутыкаліся каталіцкая рэлігія з усходняй царквою, шляхецкая Рэч Паспалітая з сістэмай самаўладства.

...З усіх славянскіх народаў русіны, гэта значыць, сяляне Пінскай, часткова Мінскай і Гродзенскай губерняў, захавалі найбольшую колькасць агульнаславянскіх рысаў. У іх казках і песнях ёсць усё. Пісьмовых помнікаў у іх мала, толькі Літоўскі Статут напісаны іх мовай, самай гарманічнай і з усіх славянскіх моў найменш зменenай.

...На беларускай мове, якую называюць русінскай альбо літоўска-русінскай... гаворыць каля дзесяці мільёнаў чалавек; гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, яна ўзнікла даўно і цудоўна распрацаваная. У перыяд незалежнасці Літвы вялікія князі карысталіся ёю для сваёй дыпламатычнай перапіскі.




Мітынг у Мінску напярэдадні сесіі Вярхоўнага Савета БССР, на якой быў прыняты Закон аб мовах. Фота Я. Казюлі.

**Віктар ГАМУЛІЦКІ**

## НА БЕЛАЙ РУСІ

(Урывак)

...О, мова беларуская! Твой гук заўсёды,
Як рэха даўніх дзён.
Ты — мова мірнага, сардэчнага народа,
Ніў, пушчаў пераразвон.

Там, дзе славян пануе слова,
Звініш струною жаўруковай,
Духмяная, як лета, мова,
Блакітная, як лён.

...О, беларускі люд! Калі міне ўсё гора,
Шчасліваю парой
Пачуецца ў злучаным славянскім хоры
Магутны голас твой.

І будзе твой сардэчны голас,
Як птушак ранніх спеў, вясёлы,
І звонкі, быццам шчодры колас
На ніве залатой.

1908

**Пераклад з польскай Максіма Танка.**

*(Заканчэнне. Пачатак на 4-й і 5-й стар.).*

ца ў прасторы, на мясцовасці перакладаецца «пунктам», а то і словам «месца», асабліва, калі рускія «точка» і «пункт» сышліся ў адным сказе. «Точка расположения наблюдательного пункта», вядома, будзе «месцам назіральнага пункта». Або: «Здание стояло на самой высокой точке» — «Будынак стаяў на найвышэйшым месцы». Бо на кропцы ніякай будоўлі не ўзвядзеш.

Гэтак жа смотреть в одну точку — што значыць: нерухома глядзець у прастору — па-беларуску будзе глядзець у адзін пункт, у адно месца. Можна, вядома, і глядзець у адну кропку, але толькі калі яна пастаўлена, калі віднеецца нейкі значок, крапінка...

Даўно б пара нашым мованазнаўцам паставіць тут кропкі над «і» (точкі над «і), бо з такім калькаваннем, што бачыш у «Вячэрнім Мінску», можна дойсці до точкі (да краю, да ручкі).

Больш увагі да жывой мовы, і тады ўсё ў перакладзе перадасца «точка в точку», або, кажучы па-беларуску, кропка ў кропку, калі гэта — пра пісьмовы тэкст. А калі пра вусную мову — тут кропак няма, таму: зусім дакладна, слова ў слова, цюцелька ў цюцельку і г.д. У перакладным тэксце трэба всё до точки знать, видеть — г.зн. дасканала, да найменшых драбніц, вельмі (надта, дужа) добра ведаць, бачыць.

В точку я говорю? Слушна я кажу?
Тогда и точка. Тады й годзе.

У большасці гарадоў і раёнаў рэспублікі на сходах прадстаўнікоў грамадскасці, прыхільнікаў беларускага слова абраны кіраўнічыя органы рэгіянальных арганізацый ТБМ, якія ў тых ці іншых формах распачалі нялёгкую працу па ажыццяўленню статутных задач Таварыства. Многія сябры і цэлыя арганізацыі Таварыства (напрыклад, Гродзенская, Баранавіцкая, Касцюковіцкая) своечасова ўключыліся ў абмеркаванне праекта Закона «Аб мовах у Беларускай ССР». Тысячы шчырых, усхваляваных галасоў, пададзеных у падтрымку яго асноўных ідэй, безумоўна, паўплывалі на вынікі галасавання на памятнай сесіі Вярхоўнага Савета БССР 26 студзеня 1990 г. (Нагадаем іх: за прыняцце Закона — 332, супраць — 27, устрымаліся — 9). На жаль, не ўсе слушныя заўвагі да згаданага праекта былі ўлічаны, асабліва тыя, што датычылі тэрмінаў ажыццяўлення некаторых артыкулаў Закона.

Наперадзе ў Таварыства не меней важная справа — абмеркаванне і выпрацоўка як самой канцэпцыі, так і канкрэтных прапаноў да праграмы Савета Міністраў БССР, скіраванай на практычнае забеспячэнне дзяржаўнага статусу беларускай мовы ў рэспубліцы. З гэтай мэтай Таварыства ладзіць у канцы красавіка рэспубліканскую канферэнцыю «Дзяржаўнасць беларускай мовы: праблемы і шляхі ажыццяўлення».

Некаторыя грамадзяне часам выказваюць меркаванне, што з афіцыйным прызнаннем дзяржаўнага статусу беларускай мовы неабходнасць у дзейнасці ТБМ адпадае. Толькі той, хто не знаёмы са Статутам ТБМ або абыякавы да задач, пастаўленых ім, можа выказваць такія меркаванні. Няма сумнення, яшчэ не адно пакаленне нацыянальна свядомых беларусаў пакладзе на алтар беларушчыны плён сваёй самаахвярнай працы, пакуль не адродзіцца і не набудзе агульнаграмадскае гучанне беларускае слова.

Найпершым клопатам сяброў ТБМ у час перадвыбарчай барацьбы было наладжванне разнастайнай па формах дзейнасці ў падтрымку кандыдатаў у народныя дэпутаты, якія вылучаны ад Таварыства, а таксама тых, хто шчыра зацікаўлены лёсам беларускае мовы і культуры. Шэраг актывістаў ТБМ вылучаны на сходах працоўных калектываў або жыхароў мікрараёнаў, што сведчыць пра шырокую падтрымку суайчыннікамі ідэі нацыянальнага адраджэння Беларусі.

Паказальна, што кандыдатамі ад ТБМ, як актыўныя абаронцы беларускага слова, былі вылучаны людзі розных нацыянальнасцей. На вялікі жаль, па прычыне супярэчлівых тлумачэнняў Цэнтральнай выбарчай камісіяй парадку рэгістрацыі кандыдатаў у народныя дэпутаты, многія вылучаныя ад ТБМ кандыдаты не прынялі ўдзелу ў перадвыбарчай барацьбе. Прычынай непаразуменняў стала Пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 25 студзеня 1990 г. «О порядке регистрации кандидатов в народные депутаты (...), выдвинутых от некоторых общественных организаций», памылковасць якой была пераканаўча даказана на надзвычайным сходзе актыву ТБМ г. Мінска 1 лютага г. г. Аднак, калі ўсё ж Цэнтральная выбарчая камісія, адхіліўшы згаданы памылковы падзаконны акт, дала адпаведнае закону тлумачэнне, не ва ўсіх вылучаных кандыдатаў хапіла вытрымкі і настойлівасці, каб адстаяць перад акруговымі камісіямі свае права на вылучэнне і рэгістрацыю.

Каб пазбегнуць блытаніны ў рэгістрацыі раённых і гарадскіх радаў ТБМ, трэба мець на ўвазе, што правы юрыдычнай асобы рэгіянальныя арганізацыі Таварыства з 25 пунктам Статута ТБМ, зацверджаным Пастановаю Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 28 верасня 1989 г., набываюць з моманту іх рэгістрацыі сакратарыятам Таварыства. А ў мясцовыя выканкомы рады ТБМ звяртаюцца ўжо як юрыдычныя асобы з мэтай атрымання дакументаў на выраб пячаткі, атрыманне памяшкання, адкрыццё рахунку і г. д.

Шмат увагі патрабуе ад кіраўніцтва рэгіянальных арганізацый рэгістрацыя суполак, а таксама ўлік сяброў Таварыства. Выдача асабовых пасведчанняў і нагрудных значкоў ТБМ прадугледжана тым прыхільнікам беларускага слова, чые імёны значацца ў скарбовых лістах, якія з'яўляюцца не толькі фінансавымі дакументамі, але і служаць сродкам уліку асабовага складу арганізацый Таварыства. Належыць дбаць, каб і працоўныя калектывы, усведамляючы ролю грамадскага руху за адраджэнне беларускай мовы, таксама зрабілі грашовыя ўклады на рахункі ТБМ. Такія прыклады ўжо ёсць. Так, дзейнасць суполкі ТБМ Мінскага аўтазавода была станоўча ацэнена работнікамі прадпрыемства, і ў выніку Савет працоўнага калектыву завода вырашыў пералічыць 10 тысяч рублёў на рахунак ТБМ.

Сродкі, атрыманыя Таварыствам ад арганізацый і прадпрыемстваў, спатрэбяцца на арганізацыю і аплату розных форм асветніцка-культурнай дзейнасці — лекторыяў, курсаў, стварэнне і тыражыраванне арыгінальных праграм і метадычных распрацовак, перш за ўсё для школ, дзіцячых садоў, пазашкольных дзіцячых устаноў. Пасля прыняцця ўжо распрацаваных Вярхоўным Саветам СССР асноў Савецкага заканадаўства аб друку рэгіянальныя арганізацыі ТБМ могуць шырока распачаць выпуск брашур, плакатаў, буклетаў і іншай друкаванай прадукцыі, якая паслужыць вырашэнню статутных задач Таварыства, а таксама старонак або дадаткаў да мясцовых перыядычных выданняў. Мясцовае радыё, тэлебачанне таксама могуць аказаць неацэнную дапамогу ў працы рэгіянальных арганізацый ТБМ.

У пошце, адрасаванай Рэспубліканскай Радзе ТБМ, ёсць нямала пытанняў адносна умоў і формаў дзейнасці дзесяці сталых камісій Таварыства. Было б мэтазгодным працу камісій, створаных раённымі і гарадскімі радамі ТБМ, суадносіць з планамі дзейнасці сталых камісій Рэспубліканскай Рады, выкарыстоўваючы, між іншым, яе арганізацыйныя і фінансавыя магчымасці.

ТБМ можа істотна ўзбагаціць культурна-асветніцкую дзейнасць прыхільнікаў беларускага слова за межамі СССР і БССР.




Сакратарыят ТБМ распачынае дабрачынны збор кніг і перыядычных выданняў на беларускай мове ці беларускім матэрыяле (найперш слоўнікаў, даведнікаў, энцыклапедычных выданняў, дзіцячай і мастацкай літаратуры) для беларускіх згуртаванняў Сібіры, Прыбалтыкі, Польшчы, ЗША, Англіі, Канады і інш. Для тых сяброў Таварыства, усіх аматараў беларускай кнігі, хто жадае дапамагчы суайчыннікам за межамі рэспублікі, паведамляем адрас Рэспубліканскай Рады: 220005, г. Мінск, ГСП, зав. Румянцава, д. 13, Рада ТБМ імя Ф. Скарыны.

*Яўген ЦУМАРАЎ.*



На сесіі Вярхоўнага Савета БССР. Абмеркаванне Закона аб мовах. Выступае міністр культуры Яўген Вайтовіч.

Фота Ю. Іванова.

# «ПАКУЛЬ МАЁ ДЗІЦЯ

## З ГІСТОРЫІ ЗМАГАННЯ ЗА ПРАВЫ РОДНАЕ МОВЫ

* * *

**У лістападзе 1965 года ў Мінску праходзіла Усесаюзная канферэнцыя па мастацкаму перакладу, у якой удзельнічалі многія вядомыя паэты і пісьменнікі бадай што з усіх рэспублік Саюза, у прыватнасці — Мікалай Ушакоў, Дзмітрый Кавалёў, Грэгор Віеру, Юлій Ванаг, Рыгор Кочур, Якаў Хелемскі, Олеў Йыгі, Мікалай Любімаў, Вільгельм Левік, Яўген Мазалькоў, Вагаб Рузіматаў, Арсеній Астроўскі, Агей Гатаў і іншыя. На канферэнцыі ўзялі слова і беларускія пісьменнікі, у тым ліку і аўтар гэтых радкоў. Запомнілася: калі пасля выступлення я выйшаў на падворак Саюза пісьменнікаў, адзін з маіх добрых знаёмых, які ўсё жыццё дакладна арыентаваўся, дзе можна голасна, а дзе лепей пусціць шэптам, сунуў свае пальцы ў маю чупрыну і спагадліва сказаў: «Пашкадуй гэту сваю кучаравую, у цябе ж усё-такі сям'я...»**

**Захавалася стэнаграма маёй прамовы, копію якое мне тады ж перадала кансультант СП БССР Т. К. Іваніцкая. На фоне сучасных размоў пра лёс нашай мовы і культуры, у маім тагачасным выступленні няма нічога «страшнага». Але гэта з вышыні нашага сёння. А тады, дваццаць пяць гадоў назад, праўдзівае слова пра стан беларускае мовы, беларускае школы, беларускае кнігі ўспрымалася як страшная палітычная крамола, што я і адчуваў на сабе цягам доўгага-доўгага часу. Тым больш, што і далей я зусім не прыслухоўваўся да парад грамадзян добранамераных...**

**Прапаную ўвазе чытачоў стэнаграму — у перакладзе на беларускую мову — майго выступлення на Ўсесаюзнай канферэнцыі, з якога ў апублікаваную тады ж справаздачу трапіла толькі некалькі радкоў (гл. «Літаратура і мастацтва» за 23 лістапада 1965 г.).**

**Ніл ГІЛЕВІЧ.**

Маё выступленне крыху «скараціў» Агей Рыгоравіч Гатаў, таму што я хацеў прывесці лічбы, якія назваў ён, і цяпер ужо няма сэнсу іх паўтараць. Але без некаторых лічбаў мне ўсё ж не абысціся.

Вядома, у нас у Беларусі ёсць поспехі ў развіцці мастацкага перакладу, перш за ўсё — у плане культуры перакладчыцкай працы. Так, у гэтых адносінах прагрэс відавочны. Асабіста я, напрыклад, ганаруся тым, што працую ў адным атрадзе з такімі адмысловымі майстрамі мастацкага перакладу, як Аркадзь Куляшоў, Юрка Гаўрук, Язэп Семяжон, Максім Танк, Уладзімір Дубоўка, Максім Лужанін і іншыя нашы выдатныя паэты-перакладчыкі. Аднак, таварышы, я хачу завастрыць увагу на адным балючым пытанні, якое мяне асабіста і, я ведаю, усіх нас, беларускіх пісьменнікаў, вельмі хвалюе.

Агей Рыгоравіч пытаецца, што ж здарылася ў Беларусі, чаму ў параўнанні з іншымі рэспублікамі і наогул з лічбамі, сярэднімі па Савецкаму Саюзу, у нас гэтыя лічбы больш чым дзіўна мізэрныя? Сапраўды, я таксама чытаў той даведнік, на які спасылаўся Гатаў. Паводле гэтага даведніка ў сярэднім па Саюзу кнігі замежных пісьменнікаў складаюць 11 працэнтаў ад усёй мастацкай літаратуры, а ў нас у Беларусі — толькі 3—4 працэнты. Вельмі дзіўна, чаму ж гэта ў Беларусі ўсяго толькі 3—4 працэнты? Каб адказаць на гэта пытанне, я пастараюся сёе-тое растлумачыць нашым гасцям, якія здзіўляюцца, чаму ў Беларусі такое становішча з мастацкай перакладной літаратурай.

У Беларусі такія класічныя творы сусветнай літаратуры, без якіх немагчыма ўявіць існаванне нацыянальнай культуры, у апошні раз выдаваліся 30—35 гадоў таму назад. Напрыклад, кнігі Бальзака на беларускай у апошні раз выдаваліся ў 1938 годзе, Сэрвантэса — у 1938, Скота — у 1934, Стывенсана — у 1938, Дэфо — у 1934, Войніч — у 1937 годзе і г.д. і г.д. Знакамітыя кнігі Жуля Верна, як і Фенімора Купера, і Майн-Рыда, і Марка Твэна, у апошні раз былі выдадзены па беларуску перад вайной. Адным словам, пералічваць можна вельмі доўга. Усе найлепшыя кнігі гэтых пісьменнікаў я прачытаў у дзяцінстве на сваёй роднай мове і быў бясконца шчаслівы ад гэтага. А цяпер іх на беларускай мове няма. Шэсць раманаў Жуля Верна былі выдадзены да вайны на беларускай, а пасля вайны не было надрукавана ні радка! Гэтаксама быў я шчаслівы ў той далёкі час, чытаючы на сваёй роднай мове шматтомны збор твораў Максіма Горкага, кнігі Шолахава, Фадзеева, Астроўскага... Усё гэта тады выдавалася ў нас у перакладзе на беларускую. І я вам скажу, што маё пакаленне — гэта тое пакаленне, якое дало шмат піянераў-герояў, такіх, як Марат Казей, і памаглі выхаваць гэта пакаленне патрыятычныя кнігі, якія мы чыталі на сваёй роднай мове.

Што ж здарылася пасля? Гэта сапраўды горка: за дваццаць пасляваенных гадоў у нас выдадзена каля сотні назваў кніг замежных пісьменнікаў,— прыкладна столькі, колькі за адзін 1934 год. Здарылася штосьці невясёлае.

Што ў нас цяпер у перакладах выдаецца? Або рэчы выпадковыя, або юбілейныя. Прыязджаў балгарскі пісьменнік Стаян Даскалоў, пабываў у выдавецтве ў Матузава, дамовіўся аб выданні яго рамана. І хоць я лічу, што з балгарскай літаратуры трэба перакладаць больш цікавыя рэчы, але справа зроблена, ёсць дамоўленасць і раман у нас выйшаў. Гэта — прыклад выдання выпадковага. З нагоды юбілею пасля вайны ў нас былі выдадзены Байран, Шэкспір, Гейнэ, Міцкевіч, Славацкі... Так, гэта — дзякуючы юбілеям. Што такое юбілейнае выданне? Мне асабіста здаецца, што гэта ў пэўнай ступені паказуха. У нас яна вельмі распаўсюджана, і хоць Камуністычная партыя ўвесь час змагаецца з ёю, з пусканнем пылу ў вочы, але ў Беларусі ў кнігавыдавецкіх справах паказуха жыве. Перакладчыкі, вельмі паважаныя людзі, працуюць сумленна, але як толькі справа даходзіць да выдавецтва — паяўляецца паказуха. Учора за гэтай трыбунай абураліся, чаму такі маленькі тыраж кнігі Шэкспіра на беларускай мове — 1500 экземпляраў. Для паказухі — дастаткова. Хопіць, каб звазіць у Ляйпцыг на кірмаш, у Маскву на ВДНГ... Але хіба можна гаварыць, што дзякуючы такому тыражу гэта выданне з'явілася сур'ёзным укладам у справу развіцця беларускай нацыянальнай культуры? Яно можа стаць такім укладам, калі пойдзе шырока ў масы. А для гэтага тыраж павінен быць не менш 60 тысяч экземпляраў — з разліку: у рэспубліцы 20 тысяч бібліятэк і кожная з іх павінна мець тры экземпляры кнігі Шэкспіра на беларускай мове.

Кажуць аб тым, што ўсё ўпіраецца ў Кнігагандаль. Няма, ці бачыце, галавы, разумнейшай за Кнігагандаль, каб растлумачыць, што кож-

# ПРЫБЯГАЕ Ў СЛЯЗАХ...»

ная наша бібліятэка павінна мецьь кнігі, якія з'яўляюцца гордасцю чалавецтва і павінны быць на мове нашага народа.

Што ж здарылася? Чым усё гэта растлумачыць?

Галоўная прычына, пра якую трэба гаварыць на ўвесь голас,— гэта грэблівыя адносіны да беларускай мовы і культуры, якія назіраюцца ў рэспубліцы, і перш за ўсё — у школах рэспублікі. Што адбываецца ў нас у школах Беларусі? Беларускім таварышам гэта вядома, але напэўна не ўсё вядома нашым гасцям з іншых братніх рэспублік.

Сёння ў гарадах рэспублікі беларускіх школ няма. Няма такіх школ, у тым ліку і ў сталіцы БССР — у Мінску, у якіх бы ўсе прадметы выкладаліся на беларускай мове. У лепшым выпадку ёсць школы, дзе беларуская мова выкладаецца як прадмет, і то ён самы апошні па колькасці гадзін і па агульных да яго адносінах. Ёсць у нас школы на англійскай мове, на нямецкай, на французскай, але школ, дзе б усё навучанне і выхаванне вялося на беларускай мове,— такіх школ няма. І гэта не толькі ў Мінску, але і ва ўсіх гарадах Беларусі.

Гэтым летам я трапіў у такую, здавалася б, глыбінку — Браслаўскі раён. І там вясковая школа — руская, усё выкладанне ў ёй вядзецца на рускай мове. У нас цяпер справы дайшлі да таго, што паступіла інструкцыя — беларускую літаратуру ў школах выкладаць на рускай мове. Цяпер Купала, Колас, Кузьма Чорны і іншыя нашы пісьменнікі вывучаюцца беларускімі дзецьмі на рускай мове. Што гэта такое? (Ажыўленне ў зале). Ды Купала і Колас у труне перавярнуліся б, далібог, калі б даведаліся, што іх творы беларускія дзеці вывучаюць не на роднай мове! А чаму нашы дзеці пазбаўлены магчымасці чатаць усе лепшыя творы сусветнай літаратуры па беларуску? Чаму ўжо трыццаць гадоў гэтыя творы ў нас не выдаюцца?

Таварышы, мы, беларусы, здаўна і вельмі моцна любім рускую мову, рускую літаратуру. Але няўжо трэба, каб у імя гэтай любові мы ахвяравалі роднаю мовай? Каму і дзеля чаго патрэбна такая ахвяра? Рускі народ гэтага не патрабуе, руская мова ў інтарэсах свайго развіцця гэтага не патрабуе. Чаму ж тады гэта адбываецца?

Чытацкая база на беларускай мове звужаецца катастрафічна, скажам адкрыта. Што такое наша беларускае нацыянальнае выдавецтва? Па ідэі, яно павінна існаваць іменна як нацыянальнае выдавецтва, г. зн., перш за ўсё павінна задавальняць патрэбы ў развіцці беларускай нацыянальнай культуры. Але яно перастала быць такім. Па маіх падліках пяць шостых ці прынамсі чатыры пятых паперы з усяго выдавецкага плана пажырае не нацыянальная культура. Як жа можна гаварыць аб развіцці перакладчыцкай справы, калі мы знаходзімся ў такім становішчы, калі беларускія пісьменнікі чуюцца вельмі заціснутымі і з выданнем сваіх арыгінальных твораў?

Нядаўна Юрка Паўлавіч Гаўрук расказваў мне, колькі пакут прыйшлося зведаць яму, пакуль ён дабіўся выдання шэкспіраўскага «Гамлета» на беларускай мове. Адказны таварыш так заявіў Гаўруку: «навошта Шэкспір на беларускай мове, калі ёсць на рускай?» Што гэта: свядомая дыскрымінацыя ці тупасць — узровень той дамачкі, якая паблытала Драйзера са штапелем? Ну як яму даказаць — навошта? Між іншым, учора Яўгені Сямёнавіч Мазалькоў напомніў нам, што ў славянскім свеце першым прафесіянальным перакладчыкам быў беларус — Скарына.

Наступнае пытанне — дзе друкавацца. Нашы перакладчыкі хочуць і могуць працаваць плённа, але — дзе друкавацца? Вось выдавецкі план: адна кніжачка з Якуціі і чатыры з братніх сацыялістычных краін. Усяго — пяць кніжак. Скора паедзем у Таджыкістан, на Дэкаду. Павязем з сабой адзін зборнічак таджыкскай паэзіі на беларускай мове. А таджыкі выдалі сем кніг беларускіх паэтаў. Як жа наш Кнігагандаль, наш Камітэт па друку на гэта глядзяць? Маім таварышам сорамна туды ехаць. Друкавацца няма дзе. Заўтра Юрка Паўлавіч перакладзе Шылера, але — хто яго будзе друкаваць? Наша выдавецтва задыхаецца. Каб надрукаваць у «Маладосці» вершы, трэба чакаць каля году. Патрэбен новы часопіс. Таварыш Семяжон сказаў праўду — трэба дабівацца выдання добрага ілюстраванага часопіса, для гэтага ў нас сілы ёсць, і наша канферэнцыя можа ў гэтым дапамагчы нам, і тады ў выданні перакладной літаратуры ў Беларусі адбудуцца перамены.

Трохі пра ганарарную палітыку. Колькі атрымлівае беларускі перакладчык за сваю нялёгкую працу? Прывяду толькі адзін прыклад — наконт выдання падрыхтаванай мною анталогіі сучаснай балгарскай паэзіі «Ад стром балканскіх». Восем гадоў я працаваў над гэтаю кнігай. Ездзіў на тры месяцы ў Балгарыю, вывучаў мову, літаратуру, гісторыю, адбіраў вершы. Пераклаў, як было дамоўлена ў выдавецтве, каля дзесяці аркушаў. Хацелася прадставіць гэту паэзію пасапраўднаму. І вось — замест дзесяці далі толькі пяць аркушаў. На маё горкае пытанне: як жа так? — адказалі: не можам, фінансісты бяруць за горла. Так і сказалі ў выдавецтве, што задыхаюцца і не могуць дазволіць сабе такую раскошу. У выніку — палавіна анталогіі пайшла без аплаты перакладчыку: на пяць аркушаў падпісалі са мной умову, а чатыры — на грамадскіх пачатках, безганарарна. І я з радасцю згадзіўся, бо мне важна, каб кніга была выдадзена непакалечаная. І балгары ганарацца гэтай кнігай. Я вазіў яе ў Балгарыю, яны вельмі ганарацца (апладысменты). Як бачыце, палавіна маёй працы пайшла за так. Калі ўлічыць, што ў нас стаўкі для паэта-перакладчыка — 40 капеек і 70 капеек, вышэйшых я не ведаю, бо не карыстаўся больш высокімі, дык мне, так бы мовіць, можна трохі і паспачуваць...

Я хачу, каб мы ўсе зразумелі, пра што гаворка, стварылі нейкую агульную думку і паставілі перад адпаведнымі інстанцыямі пытанне аб тым, што ў нас вельмі дрэннае становішча з беларускай мовай, і ў школах — перш за ўсё. Гэта свістапляска з беларускай мовай, перш за ўсё ў школах, павінна быць спынена! (Апладысменты).

Вось факт, які можа адкрыць вочы, наколькі далёка ў нас гэта зайшло. «Літаратурная газета» прывяла такі прыклад з работы нашых бібліятэк. У вёсцы Уваравічы на Гомельшчыне маладая дзяўчына-бібліятэкар нічога не чытала з беларускіх кніжных навінак. У апраўданне заявіла, што яна не любіць беларускую літаратуру. Нарадзілася і вырасла ў Магілёве, там скончыла тэхнікум, працуе ў бібліятэцы, атрымлівае зарплату, а аддачы для беларускай культуры — ніякай! Чаму ж гэта магчыма, што чалавек, які вырас у Беларусі, заяўляе, што беларускую літаратуру не любіць? (Голас з месца: Выхавалі так!). Я не магу сабе ўявіць, каб, скажам, у Разанскай вобласці, у раённым цэнтры бібліятэкар заявіў, што ён не любіць рускую літаратуру. Чаму ж такое магчыма ў Беларусі? І вы думаеце, што пасля выступлення газеты будуць прыняты меры, што тую бібліятэкарку звольняць з працы і скажуць памяняць прафесію?

Расказвалі, што Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў у сваю бытнасць першым сакратаром ЦК дзесьці ў прыватнай гутарцы ў Латвіі заявіў: «Вы, латышы, нацыяналісты, вы бярыце прыклад з Беларусі. Беларусы першымі прыдуць у камунізм, таму што вы трымаецеся за родную мову, а беларусы паказваюць прыклад інтэрнацыяналізму». Я не ведаю, як хочацца таварышу Хрушчову, але асабіста мне не хочацца быць ні бліжэй, ні далей за латышоў. Мне хацелася б быць у адным шэрагу з усімі братнімі народамі Савецкага Саюза. (Апладысменты).

Дык вось: да той пары, пакуль не спыніцца гэта непрыгожая свістапляска з беларускай мовай у школах Беларусі, і не толькі ў школах, да той пары, пакуль маё дзіця будзе прыбягаць з вуліцы ў слязах і крычаць мне: «Нашто ты вучыш мяне беларускай мове, мяне хлопчыкі б'юць кулакамі, калі я гавару па-беларуску!» — да той пары, выбачайце, я не вельмі веру ў магчымасці поспяховага развіцця беларускага мастацкага перакладу ў нашай рэспубліцы. (Апладысменты).

# СЦЯПАН НЕКРАШЭВІЧ

У Светлагорскім раёне ёсць вёска Данілоўка. Вёска, якіх шмат на нашай зямлі. І ўсё-такі для нас яна мае сваю адметнасць. Адметнасць гэтая ў тым, што тут 8 мая (26 красавіка па ст. стылю) 1883 года ў сям'і селяніна нарадзіўся Сцяпан Некрашэвіч — будучы мовазнавец, акадэмік Беларускай акадэміі навук. Пачатковую адукацыю ён атрымаў дома, у т. зв. «дарэктара», сярэднюю — у Панявежскай настаўніцкай семінарыі, якую скончыў у 1908 годзе. Працаваў настаўнікам царкоўна-прыходскай школы ў Ковенскай губерні, школы «Таварыства цвярозасці» ў Вільні і адначасова вучыўся ў Віленскім настаўніцкім інстытуце. Пасля сканчэння яго у 1913 годзе настаўнічаў у мястэчку Дагоза Дзвінскага павета.

У 1914 годзе С. Некрашэвіч быў мабілізаваны ў армію і пасланы пад кулі на румынскі фронт. Дэмабілізавалі яго толькі ў 1918 годзе, нейкі час ён жыў у Адэсе. Там кіраваў беларускай секцыяй пры губернскім аддзеле народнай асветы і вёў арганізацыйную і культурна-масавую работу сярод дэмабілізаваных беларусаў-салдат і беларусаў-бежанцаў, што апынуліся ў гэтым горадзе. Яго намаганнямі да пачатку 1918 навучальнага года, як паведамляла газета «Дзяньніца», у Адэсе было адкрыта «30 пачатковых беларускіх школ і беларуская гімназія ў складзе першых чатырох класаў».

С. Некрашэвіч і сам вучыўся ў Адэскім вышэйшым міжнародным інстытуце. Але скончыў толькі два курсы — у 1920 годзе ён пераехаў у Мінск і стаў працаваць у Народным камісарыяце асветы, а адначасова, па сумяшчальніцтву, на розных кіраўнічых пасадах. Ён актыўна ўдзельнічаў у стварэнні Інстытута беларускай культуры (Інбелкульта) — першай нацыянальнай навуковай установы акадэмічнага тыпу, і з 1922 па 1925 год узначальваў яго, а пасля быў старшынёй Аддзела гуманітарных навук і старшынёй слоўнікавай камісіі. Арганізацыйную і навуковую дзейнасць у Інбелкульце ён спалучаў з выкладчыцкай працай у Беларускім дзяржаўным універсітэце — вёў курс беларусазнаўства на медыцынскім факультэце, а пазней, калі атрымаў званне дацэнта, чытаў курс беларускай дыялекталогіі для будучых педагогаў.

У пачатку 1925 года С. Некрашэвіч быў пасланы для павышэння лінгвістычнай кваліфікацыі ў Навукова-даследчы інстытут мовы і літаратуры пры Ленінградскім універсітэце. Там ён да ліпеня 1926 года займаўся беларускай мовай пад кіраўніцтвам акадэміка Я. Карскага.

Для далейшага развіцця навукі ў Беларусі патрэбна была рэарганізацыя Інбелкульта ў Акадэмію навук. Членам урадавай камісіі па падрыхтоўцы яе быў прызначаны і С. Некрашэвіч. Пастановай СНК БССР ад 26 снежня 1928 года ён быў зацверджаны правадзейным членам і віцэ-прэзідэнтам новастворанай Беларускай акадэміі навук. Адначасова ён быў дырэктарам акадэмічнага Інстытута мовазнаўства, старшынёй правапіснай і аспіранцкай камісіі, камісіі па ўкладанню слоўніка жывой беларускай мовы, а з 1 студзеня 1928 года і старшынёй Галоўнавукі пры Народным камісарыяце асветы.

На VIII і IX Усебеларускіх з'ездах Саветаў С. Некрашэвіч выбіраўся членам ЦВК БССР. Улетку 1930 года яго арыштавалі па беспадстаўным абвінавачанні ў т. зв. нацыяналізме і ў красавіку 1931 года выслалі на пяць гадоў у г. Сарапул Удмурцкай АССР. Ён працаваў там планавікомэканамістам у арцелі інвалідаў, потым бухгалтарам канторы «Заготзерно». Пастановай асобай нарады НКУС СССР у 1936 годзе тэрмін высылкі быў працягнуты яшчэ на два гады, а ў канцы 1937 года яго зноў арыштавалі, прывезлі ў Мінск і 20 снежня тут жыццё яго абарвалася.

Навуковая дзейнасць С. Некрашэвіча разгорталася ў некалькіх напрамках. Асноўны з іх быў лексікаграфічны. Як старшыня навукова-тэрміналагічнай камісіі, ён непасрэдна ўдзельнічаў у апрацоўцы беларускай навуковай тэрміналогіі па розных галінах ведаў. Апрацаваная і зацверджаная камісіяй Інбелкульта навуковая тэрміналогія спачатку публікавалася ў «Вестніку Народного комиссариата просвещения ССРБ», а з 1922 года выдавалася асобнымі выпускамі. За восем гадоў выйшла 23 выпускі.



У лютым 1925 года Інбелкульт вырашыў распачаць укладанне слоўніка жывой беларускай мовы. Для гэтага была створана спецыяльная камісія, якую ўзначаліў С. Некрашэвіч. Слоўнік, паводле яго меркавання, мусіў быць тлумачальны, каб абнародаваць з навуковымі каментарыямі лексічныя багацці беларускай мовы на ўсёй этнаграфічнай тэрыторыі Беларусі. Крыніцамі лексічнага матэрыялу для слоўніка былі вызначаны народная мова, прадстаўленая яе гаворкамі і лепшымі фальклорнымі запісамі, літаратурная мова і папярэднія лексікаграфічныя працы. Матэрыялы дапамагалі збіраць студэнты і краязнаўцы. Таму картатэка хутка расла і да канца 1927 года налічвала звыш 400 тысяч адзінак. 20 лістапада 1929 года быў зацверджаны канчатковы праект слоўніка і камісія распачала апрацоўку слоўнікавых артыкулаў на літару «А». Аднак у сярэдзіне 1930 года, пасля арышту С. Некрашэвіча і іншых выканаўцаў, работа над слоўнікам спынілася, а багатая картатэка і апрацаваныя слоўнікавыя артыкулы загінулі ў час Вялікай Айчыннай вайны.

Нават пры спрыяльных умовах завяршыць слоўнік жывой беларускай мовы меркавалася не раней як да канца 30-ых гадоў. А між тым лінгвістычныя даведнікі, перш за ўсё практычнага тыпу, вельмі патрэбны былі школам, дзяржаўнаму справаводству, нацыянальнай культуры. Вось чаму яшчэ ў 1922 годзе С. Некрашэвіч і М. Байкоў распачалі апрацоўку перакладных слоўнікаў. У 1926 годзе яны выдалі «Беларуска-расійскі слоўнік», а ў 1928 — «Расійска-беларускі слоўнік». Гэтыя слоўнікі сталі прыкметнай з'явай у гісторыі нашай нацыянальнай лексікаграфіі.

Адначасова з лексікаграфіяй С. Некрашэвіч працаваў і над правапісам. Вялікую ўніфікуючую ролю ўжо адыграў ягоны ранні артыкул «Правапіс спрэчных дзеяслоўных форм». На Акадэмічнай канферэнцыі «па рэформе беларускага правапісу і азбукі» ў 1926 годзе вучоны выступіў са спецыяльным дакладам. Але канферэнцыя не вырашыла ўсіх спрэчных пытанняў, а прынятыя ёю пастановы не былі ажыццёўлены.

Аб'ектам навуковых даследаванняў С. Некрашэвіча была і беларуская дыялекталогія. Разам з П. Бузуком ён склаў у 1927 годзе «Праграму для збірання асаблівасцей беларускіх гаворак і гаворак пераходных да суседніх моваў», удзельнічаў у складанні інструкцый і праграм па збіранню народнай лексікі для слоўніка жывой беларускай мовы і слоўнікаў краёвых, у 1929 годзе апублікаваў вялікі нарыс «Да характарыстыкі беларускіх гаворак Парыцкага раёна».

С. Некрашэвіча цікавіла і гісторыя беларускай мовы. З ягоных прац тут варта адзначыць змястоўны артыкул «Мова кнігі Касьяна Рымляніна Ераміты «О уставах манастирских» (1928 г.). Завяршанае даследаванне «Васіль Цяпінскі. Яго прадмова, пераклад Евангелія на беларускую мову і мова перакладу» у сувязі з арыштам аўтара не было апублікавана і потым прапала.

Шмат увагі надаваў С. Некрашэвіч стварэнню школьных падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў. Ён быў аўтарам першага паслярэвалюцыйнага «Беларускага лемантара», які выдаваўся шэсць разоў, і першай паслярэвалюцыйнай школьнай чытанкі «Роднае слова». У сааўтарстве з М. Байковым і М. Багдановічам С. Некрашэвіч склаў спецыяльны дапаможнік «Наша сіла — ніва ды машына» для гурткоў па ліквідацыі непісьменнасці. Гэтыя падручнікі былі напісаны з улікам канкрэтных умоў тагачаснай Беларусі, сталі асновай для пазнейшых выданняў нацыянальнай вучэбнай літаратуры.

*І. ГЕРМАНОВІЧ.*

Янка Брыль

# НАМ ТРЭБА

Учора быў першы раз у Жупранах.

Магіла, помнік і, у касцёле, партрэт Багушэвіча.

Радасна, дзіўна, што ён — не легенда, не гістарычнае штосьці, а чалавек, які зусім паблізу жыў, памёр і пахаваны тут вось, побач з маці і сястрой, на звычайных вясковых могілках, дзе на кожным помніку па некалькі пацешных памылак...

І другое пачуццё. І здзіўленне, і недаўменне, і пашана да таго, хто блізу сто гадоў таму назад упарта, як парастак паміж плітамі тратуара, пралез паміж дзвюма стыхіямі, рускай і польскай, насуперак усім, уключаючы сваіх найбліжэйшых, пралез і вырас са сваім і зрэбным, і глыбока, па-народнаму, пахлебнаму свежым беларускім словам. І славы не было, а толькі адчуванне абавязку.

Шчасце наша, відаць, у самой апантанасці.

1960

Нам трэба літаратурная мова. Як у рускіх — «великий, могучий, правдивый и свободный русский язык!» Пішам. Хто адкуль сюды, у цэнтр нашай зямлі, прыйшоў, прынёс сваю мову, мову родных мясцін. Куды і цяпер ён часта вяртаецца, да мовы сваёй, у прозе — па добрым прыкладзе Івана Мележа. Узбагачайма яе, нашу літаратурную мову, голлем, лісцем, кветкамі, пладамі, насеннем мясцовых гаворак, але ж памятайма, дбайма і пра ствол, і пра карэнне вялікага дрэва нашай роднай літаратурнай мовы.

1983

Днямі зноў думалася пра крыніцу — родную мову, якой служу і буду служыць як першааснове выхаду ў агульналюдскае. І не таму, што без гэтага мяне не будзе, а таму, што толькі так, толькі кожны ад свайго, ад сыноўняй любасці, ад мудрай пашаны да сваёй крыніцы, да свайго карэння па-сапраўднаму выходзяць да ўсіх людзей.

1983



Пімен ПАНЧАНКА

# РОДНАЯ МОВА

Кажуць, мова мая аджывае
Век свой ціхі: ёй знікнуць пара.
Для мяне ж яна вечна жывая,
Як раса, як сляза, як зара.
Гэта ластавак шчабятанне,
Звон світальны палескіх крыніц,
Сінь чабору, і барвы зарніц,
І буслінае клекатанне.
Калі ж хто загадае: «Не трэба!» —
Адрачэцца ад мовы народ,—
Папрашу я і сонца, і неба:
Мне не трэба ні славы, ні хлеба,
Асудзіце на безліч нягод.
Толькі месяцаў назвы пакіньце,
Назвы родныя роднай зямлі,
Пра якія з маленства ў блакіце
Бор шуміць і пяюць жураўлі:
Студзень — з казкамі снежных аблокаў,
Люты — шчодры на сіні мароз,
Сакавік — з сакатаннем і сокам
Непаўторных вясновых бяроз,
Красавік — час маланак і ліўняў,
Травень — з першым каханнем, сяўбой,
Чэрвень — з ягаднаю зарой,
Ліпень — з мёдам,
З пшаніцаю — жнівень,
Спелы яблычны верасень,
Светлы кастрычнік
У празрыстасці чыстай, крынічнай,
Лістапад — залаты лістапад,
Снежань — першы густы снегапад...
Ці плачу я, ці пяю?
Восень. На вуліцы цёмна...
Пакіньце мне мову маю,
Пакіньце жыццё мне.

1964 г.

Ларыса ГЕНІЮШ

# СА СПАДЧЫНЫ

* * *

Сёння на пласе родная мова.
Вырваць жывую належыць з агню.
Слова «кахаю» — слабае слова.
Мужнае слова — «абараню»!

* * *

Матчынай мовы багатай і слаўнай,
Што ў скарбах народу, бы фонд залаты.
Не аддавайце бяздумна, бяспраўна,
Не прадавайце святога, браты!

* * *

Зжылася з зямлёю, у дрэвы ўрасла,
Пераплялася з травою і кветкамі
Родная мова старога сяла,
Ад іншых сваёй цеплынёю адметная.

Цягнулася доўга за ніткай льняной
Прымаўкай мудрай і казкай, і песняю,
Схавалася ў сёлы, жыла пад страхой,
Выходзіла ў поле да сонейка весняга.

Зярністая, шчодрая, бы каласок,
Мудрасці ціхай прыпынак глыбінны,
Сіні, бясхмарны нябёсаў кусок
Пад белым і чыстым крылом галубіным.

Хрышчоная ў полі вясняным дажджом,
Пахучая белым рамонкам і мятай,
Задорны уздым за святочным сталом,
І ладная, сціплая гутарка хатняя.

Разгойдала мары, збудзіла любоў,
Цябе ў маім сэрцы ніхто не заглушыць,
Таму, што чароўныя прыгаршні слоў
Маці любоўна мне ўсыпала ў душу.

Са мной размаўлялі палі і бары,
Адносілі хвалі па Нёмане думы,
І баяў мне нешта магільнік стары,
Сялянская доля заводзіла сумна.

Калі цябе мудрасць кране і любоў,
Засвецішся ласкай, вясёлкаю фарбаў,
З-пад напластавання мінулых вякоў
Адкрыеш нашчадкам схаваныя скарбы.

Ты нам Скарынаю выйдзеш у свет,
У Статут правы зніжаш на дзіва,
То заглушаць, затопчуць твой след,
Мова сёлаў і мова архіваў.

Мова падобная да салаўя,
Прасякнута любасцю жніўнай і роснай,
Мова дзядоў маіх, мова мая,
Гімн нашай долі пакутны і ўзнёслы!

Публікацыя Барыса Сачанкі

## З НАТАТНІКА МОВАЗНАЎЦЫ

# МОЎНАЯ ЭКАЛОГІЯ Ў СВЕЦЕ

Знаёмячыся з новай літаратурай па мовазнаўству, міжволі звяртаеш увагу на тыя факты, што дазваляюць па-іншаму глянуць на некаторыя бакі моўнай гісторыі і жыцця Беларусі. Асабліва цяпер, калі ў сувязі з абмеркаваннем закона аб мовах у рэспубліканскім друку, побач з лістамі, напоўненымі сапраўдным болем і клопатамі пра стан нашай мовы, з'яўляюцца «тэарэтычныя» артыкулы, ад якіх за вярсту патыхае тупым правінцыялізмам, вялікадзяржаўным шавінізмам яшчэ царскай закваскі або кар'ерысцкім прыстасавальніцтвам. І як рэакцыя на гэта з'яўляюцца ў нататніку шматлікія выпіскі, спасылкі, меркаванні, якімі і хацелася б падзяліцца з чытачамі «Нашага слова».

У адным з апошніх нумароў усесаюзнага навуковага часопіса «Вопросы языкознания» апублікаваны агляд «Да тыпалогіі формаўмоўнай палітыкі» вядомага савецкага даследчыка рамана-германскіх моў В. Гака. Гэты агляд фактычна рэзюміруе асноўныя дасягненні сусветнай навуковай думкі ў галіне т. зв. моўнага будаўніцтва, праблема якога, паводле аўтара агляду, узнікае кожны раз, калі на адной тэрыторыі суіснуюць розныя мовы і калі мае месца «моўная рухомасць»— пераход груп насельніцтва ад адной мовы да другой. Лёгка заўважыць, што якраз такі стан характэрны для Беларусі. У сувязі з перспектывамі рэкламуемага ў рэспубліцы поўнага ці развітога двухмоўя, у якім шмат каму (з тактычных ці іншых меркаванняў) бачыцца шлях да гарманізацыі моўных адносін, грозным папярэджаннем здаецца вывад, што «двухмоўе наогул уяўляе няўстойлівы стан, раней ці пазней яно вядзе да «глотафагіі» — паглынання адной мовы другой». Яшчэ больш уражвае, асабліва ў кантэксце дамарослай тэорыі «зліцця» моў, вывад аб тым, што «ў абсалютным моўным адзінстве зацікаўлена і кожная бюракратыя». Якраз яна часцей за ўсё спасылаецца на неабходнасць такога адзінства ва ўмовах эканамічнай і палітычнай інтэграцыі, што ў рэшце рэшт зводзіцца да вядомага лозунга «спачатку каўбаса, а потым мова». Рэзкім кантрастам на гэтым фоне ўяўляюцца назіранні аўтара агляду, што ў Заходняй Еўропе тэндэнцыі да эканамічнай і палітычнай інтэграцыі парадаксальным чынам спалучаюцца з тэндэнцыямі да культурна-моўнай дыверсіфікацыі (разнастайнасці, рознабаковага развіцця). Усё гэта вынік дэмакратызацыі і гуманізацыі жыцця ў цывілізаваных краінах: «Становіцца ўсё больш відавочным для ўсіх, што кожная мова ўяўляе грамадскае і агульначалавечае багацце, непаўторнае ў сваёй індывідуальнасці. Людзі сталі больш клапаціцца аб захаванні гэтага багацця. Гуманістычныя погляды прывялі да ўсталявання таго, што французы называюць le droit á la différence, г. зн. «права на адрозненне», права быць не такімі, як іншыя, права гаварыць на сваёй мове, жыць у адпаведнасці з традыцыямі сваёй культуры».

У кантэксце нашых спрэчак аб лёсе і шляхах развіцця беларускай мовы, сферах яе ўжывання і ўмовах выжывання вартымі ўвагі з'яўляюцца наступныя меркаванні: «Мастацкая літаратура з'яўляецца вышэйшай формай выкарыстання мовы, яна дэманструе яе магчымасці, спрыяе яе ўзбагачэнню, але не яна вырашае лёс мовы ў грамадстве. У гісторыі было нямала прыкладаў, калі на якой-небудзь мове ствараліся выдатныя мастацкія творы, але сама мова памірала. Выжыванне і развіццё мовы забяспечваецца яе выкарыстаннем у трох іншых сферах: у побыце, у выкладанні і ў грамадскім жыцці (перш за ўсё ў сферы адміністрацыі і ў вытворчасці). Мова памірае, калі яна перастае быць сродкам зносін у сям'і. Яна бяднее і не развіваецца і ў рэшце рэшт таксама памірае, калі не выкарыстоўваецца як мова выкладання ў школе і ў зносінах людзей». Як відаць, з гэтых меркаванняў можна рабіць і практычныя вывады для дзейнасці ТБМ, у тым ліку і пры рэалізацыі прынятага Вярхоўным Саветам БССР Закона аб мовах у Беларускай ССР.

Сярод свядомай часткі беларусаў даўно ўжо выклікаюць здзіўленне часам і абурэнне выпадкі адмаўлення пэўнай часткі грамадства ад роднай мовы і нават варожага стаўлення да яе з боку тых, хто з дзяцінства выхоўваўся ў яе натуральнай стыхіі і гаворыць на рускай мове з выразным беларускім акцэнтам. Ірацыянальнасць такіх паводзін асабліва ўражвае людзей, што прыязджаюць да нас з іншых рэспублік і краін. Між тым, вопыт сусветнай сацыялінгвістыкі дазваляе зразумець умовы і механізм развіцця такога моўнага нігілізму, што само па сабе ўжо з'яўляецца крокам на шляху да яго пераадолення. Т. зв. моўнае адчужэнне «заключаецца ў тым, што чалавек, які не мае магчымасці паўнацэнна карыстацца роднай мовай і не засвоіў цалкам мажарытарную (функцыянальна прэстыжную — Г. Ц.) мову, фактычна аказваецца без сродкаў зносін і выпадае з ліку актыўных членаў грамадства. Таму ў носьбітаў мінарытарнай (функцыянальна менш прэстыжнай.— Г. Ц.) мовы можа ўзнікнуць імкненне цалкам перайсці на мажарытарную мову, у некаторых развіваецца тое, што амерыканскія лінгвісты называюць «self-hatred» («саманянавісць»), г. зн. пагарда і нянавісць да роднай мовы». Змагацца з гэтымі з'явамі можна двумя сродкамі, прынятымі ў т. зв. моўным упарадкаванні: заканадаўчымі актамі ўрадавых органаў і дзейнасцю грамадскіх або прыватных арганізацый. Найбольш важнымі, натуральна, з'яўляюцца заканадаўчыя акты розных узроўняў, якія рэгулююць ужыванне моў у пэўным грамадстве. Цікава, што да XIX ст. у розных краінах прымаліся законы ў карысць мажарытарнай мовы, а з другой паловы XIX ст. пачынаюць выдавацца законы, што абараняюць мінарытарныя мовы.

У святле нашых разважанняў аб рэалізацыі на практыцы славутага прынцыпу выбару бацькамі мовы навучання нялішне ўспомніць, як бачыцца гэтая праблема з тэарэтычнага пункту погляду: «Нават свабодны выбар мовы навучання ў школе разглядаецца многімі лінгвістамі як сродак замацавання моўнага і культурнага няраўнапраўя і выцяснення мінарытарнай мовы». У другой частцы агляду даюцца прыклады практычнага вырашэння задач моўнага будаўніцтва. Для Савецкага Саюза цікавы вопыт рашэння моўнага пытання ў Бельгіі, дзе развіццё пайшло па шляху фарміравання падвойнага аднамоўя. Як пішацца ў аглядзе, «моўнае рэгуляванне часта стварае «нязручнасці» для пэўных асоб: прыходзіцца вывучаць другую мову, таму што многія пасады патрабуюць двухмоўя, прыходзіцца пераадольваць нацыянальны эгаізм, пачуццё «перавагі» сваёй нацыі і сваёй мовы і г. д. Але ў канцовым выніку гэта акупаецца. Хаця моўныя праблемы ў Бельгіі канчаткова не вырашаны (у прыватнасці, моўная сітуацыя ў Бруселі), асноўнае дасягнута: створана сацыяльна-палітычная раўнавага паміж дзвюма мовамі, якая забяспечвае захаванне адзінства краіны». Як нам здаецца, ва ўмовах перабудовы, калі моўна-нацыянальныя праблемы набываюць вастрыню, да гэтага вопыту варта было б прыгледзецца.

Генадзь ЦЫХУН.

Янка БЕЛЫ

# Пісулька да рэдакцыі

Толькі што дастаў першы нумар газеты «Наша Ніва». Глянуў! Пачаў чытаць — сэрца забілася, сьлёзы бягуць і кругом пацямнела... Здаецца, што ўсё, што толькі ёсьць найлепшага ў сьвеце, звалілася адразу, і сам ня ведаеш, чы гэта сон, чы праўда?! Праўда і праўда! З гэтаю праўдай звальваецца цяжкая зіма ўсяго беларускага народу. Засьвяціўшае сонца адаграваець сэрца гэтага народу. А як мы ведаем, што сонцам трымаецца ўвесь сьвет, відзім, што з вясны наша родная зямелька, як толькі адпусьціцца, яшчэ з-пад лёду выпускаець траўку, так і наша цяпер сэрца — сэрца цэлага беларускага народу, зачынаець выпушчаць гэтыя першыя, самыя мілыя, вясеньнія пёркі — траўкі.

Гэтую траўку нам і трэба старацца ўсімі сіламі даглядаць, каб яна не зачахла, а разрасталася і йшла далей пышным ростам. Што нам для гэтага трэба рабіць? Адзін адказ на гэта: трэба школы, трэба навукі.

Вото ж я і раскажу, як пачынаюць школьнае дзела другія народы. Жыву я на граніцы Польшчы і Літвы і тут прыглядаюся, як палякі адкрываюць свае школы.

У Варшаве яны ўстроілі колка пад названьнем «Мацерж Польска». Гэта колка сабралася з людзей з усяго Польскага краю, каторыя шчыра стараюцца па ўсім краю залажыць школы на родным сваім языку як для малых, так і для вялікіх. «Мацерж Польска» маець па губэрнскіх і павятовых гарадох свае камітэты. У такі камітэт прымаюць кожнага, хто толькі хочэць працаваць на гэта народнае дзела. «Мацерж Польска» па ўсіх газэтах краю пішэць да народу, просячы афяр, хто можэць і колькі хочэць грашмі, кніжкамі і хто чым толькі можэць, каб памагалі...

Вот і я мысьлю, што і нам трэба так сама рабіць, як робіць «Мацерж Польска». Трэба і нам усім як адзін чалавек стаць за гэтую работу, залажыць сваю «Матку Белае Русі», не жалець знасіць да яе ўсё, хто чым багаты, і тагды і мы завядзем свае школы ў нашай роднай беларускай мове. Кожны, хто не паверыць гэтаму,— глянь на сваіх дзетак і ты адразу зразумееш, што гэта твая Богам прыказаная павіннасьць. Такім толькі парадкам мы памаленьку скінем з сябе нашу цямноту і знайдзем дарогу да лепшага жыцьця.

(Наша Ніва, Вільня, 2 сьнежня 1906 г. (№ 4).

●

У. ІГНАТОЎСКІ

# АЛЕСЬ ГАРУН (Аляксандр Прушынскі)

Урывак з «Кароткага нарыса нацыянальна-культурнага адраджэньня Беларусі»

Прыйшоў час барацьбы ўбогага люду за свае правы.

...Прэч з дарогі!  
Хто нам хоча заступіць?  
Мы пайшлі, мы, люд убогі,  
Усё ўзяць ці ўсё згубіць.

Пясьняр таксама будзе змагацца і ісьці з народам. З народам павінен ісьці і ўсякі, хто яму спачувае. Не павінна быць у гэтай справе ні слабых, ні здрайцаў. Гэта — сьвятая справа.

Ідучы з народам і за народ, пясьняр высока ставіць мову яго, мову беларускую. Ён зьвяртаецца да Беларуса з прызывам не цурацца роднай мовы. Родная беларуская мова — гэта той народны скарб, які ад дзядоў і прадзедаў захаваўся ў сялянскай аграбленай хаце. Яго трэба шанаваць, каб застацца калектыўнай індывідуальнасьцю, каб не загінуць. Толькі тады будуць шанаваць і беларуса, калі ён шануе родную мову.

Дык шануй, Беларус, сваю мову —  
Гэта скарб нам на вечныя годы:  
За пашану радзімаму слову  
Ушануюць нас брацьця народы.

Толькі тады слова песьняра будзе званіць вялікім звонам, калі яно будзе ў роднай мове. Яно тады загрыміць і будзе магутным. І пясьняр лічыць сябе павінным званіць у гэты вялікі звон «без упынку, без спачынку». Дзе толькі ёсьць гарота, дзе толькі жыве галота ня сытая, ня ўмытая,— усюды там павінна зычэць родная песьня, каб спыніць жаль набалелага сэрца працоўнага народу.

(Вольны Сьцяг, літаратурна-мастацкая і навуковая штомесячная часопісь, Менск, 1921, № 4(6), с. 23—24).



Я. МАЛАНКА

# БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ ХОЧУЦЬ ...

*Янка, Тодар, дзядзька Клім*  
*Доўга думалі аб тым,*  
*Як бядзе тэй пасабіць —*  
*Школу родную адкрыць:*  
*Каб урэшце ясна сонца*  
*Засьвяціла нам ў ваконца,*  
*І асьветы промень ясны*  
*Беларус пазнаў няшчасны.*

*Вось парады ў думках гэтых*  
*Пачалі шукаць ў газэтах...*  
*І чытаюць, што наўкола*  
*Паўстае радная школа,*  
*Толькі трэ' сабраўшы сход*  
*Напісаць, што сам народ*  
*Аб асьвеце ўсё клапоча —*  
*Беларускай школы хоча.*

*Вось, па солтыса загаду,*  
*Сабраліся ўсе на раду*  
*І зрабілі прыгавор:*  
*Каб у вёсцы Чорны Бор*  
*Школу родную адкрыць...*  
*Галавы каб не дурыць*  
*Сваім дзеткам так на волі...*  
*Хочам школы — і даволі.*

*Дзядзька Клім і Тодар з Янкам*  
*У дарогу выйшлі ранкам,*  
*Каб прад панам інсьпектарам*  
*Быць назаўтра з прыгаворам.*  
*І прыйшлі яны да мэты*  
*Ды знайшлі будынак гэты,*  
*Прастаялі там ад раньня*  
*Без гарбаты і сьняданьня.*

*Увайшлі яны за дзьверы,*  
*Падалі свае паперы*  
*І пачулі яны ўраз*  
*Міласьцівейшы адказ:*  
*«Добра, добра, мае людзі!*  
*Хай па вашаму ўжо будзе;*  
*Толькі трэба пачакаць!»*  
*(Так гадкоў мо' з дваццаць пяць...)*

(Авадзень, дватыднёвік крытыкі, жартаў і сьмеху, Вільня, 18 сакавіка 1926 г. (№ 5), с. 2—3).

(Янка Маланка — псеўданім Івана Маразовіча)

# УЗБАГАЧАЦЬ ЛІТАРАТУРНУЮ МОВУ

Паважаныя сябры Таварыства беларускай мовы! Сёння, калі прыняты Закон Беларускай ССР «Аб мовах у Беларускай ССР» і роднай мове нададзены статус дзяржаўнасці, а гэта значыць, што яна паступова будзе займаць усе ячэйкі жыццёвай чалавечай рэальнасці, абслугоўваць усе сферы жыцця, мы, як ніколі, павінны клапаціцца пра чысціню літаратурнай мовы, узбагачаць яе лексічнымі сродкамі народных гаворак.

Часта можна чуць з вуснаў людзей, што беларуская літаратурная мова не ў сілах абслужыць, як гэта робіць руская літаратурная мова, усе сферы жыцця, бо ў яе бедныя сінанімічныя рады слоў, не выпрацавалася спецыяльная тэрміналогія і што ў беларускай літаратурнай мове многа нежывых у народзе слоў і нават штучных слоў. Што можна сказаць наконт ўсяго гэтага. Гэта ў нейкай ступені так. Літаратурную мову неабходна яшчэ і цяпер шліфаваць і ўзбагачаць. І важнейшым сродкам папаўнення лексікі беларускай літаратурнай мовы з'яўляюцца жывыя беларускія гаворкі. Пра гэта трапна і слушна выказаўся класік беларускай літаратуры Якуб Колас: «Мы маем вялікі моўны запас, які незаслужана забыты намі, літаратарамі, і з поспехам ужываецца ў народзе. Значыць, перад увядзеннем кожнага новага слова трэба абшарыць кішэні сваёй памяці, перагледзець слоўнікавыя і фальклорныя крыніцы, прыслухацца да жывой гаворкі — а можа, і знойдзецца якраз тое, што неабходна, што ўжывалася, ці ўжываецца і невядома нам» (Я. Колас. Развіваць і ўзбагачаць літаратурную мову. «Публіцыстычныя і крытычныя артыкулы». Мн., 1957, с. 309).

Пра вялікае лексічнае і сінанімічнае багацце беларускіх гаворак гавару з упэўненасцю, бо больш чым дваццаць гадоў збіраю і сістэматызую народную лексіку і фразеалогію Дзісеншчыны. За гэты час накоплены багаты лексічны матэрыял — больш за 70 тысяч народных слоў. І ўсё роўна пасля кожнай новай паездкі на Дзісеншчыну прывожу ў сваю картатэку ўсё новыя і новыя словы, якіх у абсалютнай большасці не знаходжу ні ў адным з апублікаваных дыялектычных слоўнікаў. Надта багатая і народная сінаніміка, нават гаворкі адной вёскі. Напрыклад, да слова адлупцава́ць (моцна набіць) сінонімамі ў дзісенскай гаворцы з'яўляюцца ёмкія экспрэсіўныя словы адсцяба́ць, адсцёбаць, адджгаць, адджга́ніць, адпсю́рыць, адксці́ць адцві́чыць адсяме́ніць, адсма́ліць, адпераза́ць, адскаблі́ць, адхваста́ць, адхлястаць, адлупі́ць, адсярба́ць, адсёрбаць, адхварасці́ць, адву́дзіць, аддуба́сіць, адчыхво́сціць, адбараба́ніць, адбуксава́ць, адбукс́іць, адгрэ́ць, аджа́рыць, адмалаціць, адпра́жаць, адпя́рыць, адсадзі́ць, адмясіць, адкамя́чыць, адкамя́каць, адмя́каць, адпа́рыць, апу́хліць, адгра́каць, адгро́каць, адгра́каць, адгро́каць, аддзю́гаць, адкляўшы́ць, адпо́ўшыць, адпудры́ць, адпу́цываць, адпу́цаць, адшлёпаць і інш. (канечне, кожны сінонім мае свае тонкасці ў сэнсе і адценні значэння).

Я прывёў прыклад сінанімічнага багацця ацэначнай лексікі. З нейтральнай лексікі можна прапанаваць для ўключэння ў слоўнікі літаратурнай мовы з дзісенскіх гаворак словы аблівéнь — галалёд, аблівака: абрамі́зіць — пакрыўдзіць, аблаяць; абрасéць — выпасці (пра расу) (параўн.: Трава абрасела і ў безасабовым ужыванні — Пойдзім касіць, як трошку абрасеіць); абсу́длівы — які абгаворвае, нядобразычліва выказваецца пра каго-н.; адва́жлівы — адважны; адбіццё: адбіцця́ няма́ — адбою (рады) няма; адды́х — перадышка, кароткі перапынак, адпачынак; адсло́ўны — які згаджаецца на што-н. з першага слова; акраву́ха, акраву́шак, акраву́шка, акраму́шак, акраму́шка — акравак матэрыі, сукна; аржану́ха — ржаная салома; грашаўны́ — грашавіты; жывада́лам, жывада́ллю — жывасілам; забо́істы; забо́істы дождж — моцны, залі́ўны дождж; залівéнь — лівень; згарава́цца — гаруючы, змучыцца, змагчыся; кажанéць — марнець, чахнуць; лéтка — яравая пшаніца; на́гібкам — нагбом; сіват́а — сівізна; уто́ўпіцца — умясціцца і мн. інш.

*Згодзен я і з Максімам Лужаніным, які яшчэ ў 50-я гады прапанаваў уключыць у слоўнікі літаратурнай мовы словы капаніца — матыка, наўзлако́ткі — успёршыся на руку, аблакаціўшыся, нако́льнік — гарэза, верхалаз (а на Дзісеншчыне яго замяняе ёмкае слова раско́л), і з мовазнаўцай К. М. Панюціч, якая прапануе для слоўнікаў літаратурнай мовы словы ру́пнік, ру́пніца, руплі́вец — руплівы чалавек; схварэ́ць, схварэ́лы, далікту́н, далікту́ха — асоба, якая патрабуе да сябе далікатных адносін, капрызная, патрабавальная; паго́днікі, паго́дкі, паго́дніцы — дзеці, якія нараджаюцца ў сям'і адзін за адным праз год;* здо́льнік — прыёмны сын; здо́льніца — прыёмная дачка; брацéнік — дваюрадны брат; сястру́ха — дваюрадная сястра; гаду́н, гадунéц, гадаві́к, гадаві́чка — аднагадовы, гадавалы; дзяву́ля — замест, як лічыць яна, менш пашыранага дзяву́ха; радзі́на — род, радня (з адпаведнай паметай) (К. М. Панюціч. Лексіка народных гаворак. Мн., 1976, с. 113—114).

Для ўдасканалення спецыяльнай тэрміналогіі таксама неабходна чэрпаць сродкі ў жывой народнай мове, яны там ёсць. Ёсць і мадэлі, па якіх можна ўтвараць новыя беларускія тэрміны.

Хачу выказаць яшчэ адно меркаванне. На маю думку, беларускай літаратурнай мове нічога не пагражала раней, не пагражае і цяпер. Літаратурная мова ёсць. На працягу дзесяцігоддзяў выпрацаваліся ў асноўным яе нормы. На ёй створана багатая мастацкая літаратура, выдаюцца газеты і часопісы (іншая справа — іх кольскасная суадноснасць з рускамоўнымі выданнямі ў БССР), гучыць літаратурнае слова па радыё і тэлебачанні. Пагроза навісла над народнай мовай. Вясковае насельніцтва вымірае, моладзь падаецца ў горад, пераходзіць у быце на рускую мову. Народнае моўнае багацце гіне на вачах. Шлях адзін — трэба неадкладна збіраць, запісваць яшчэ жывую мясцовую лексіку, укладаць і выдаваць яе ў выглядзе дыялектных слоўнікаў і матэрыялаў да іх. Трэба зрабіць пастаяннымі старонкі народнага моўнага матэрыялу ў часопісе «Полымя», іншых выданнях. Трэба прапагандаваць гэту лексіку сярод тых, хто жадае ёю авалодаць. Трэба зближаць літаратурную мову з народнай, гутарковай, абагачаць яе, імкнуцца пазбаўляць літаратурную мову штучнасці, хоць, зразумела, любая літаратурная мова (у тым ліку і руская) у пэўнай меры заўсёды штучная. Людзі гавораць на жывой народнай мове. Лічу, што чалавек добра валодае мовай толькі тады, калі ён добра ведае народную, натуральную аснову мовы, з яе лексічным, сінанімічным, вобразным і структурным багаццем. І гэта людзям неабходна спасцігаць. Канечне, ніхто не павінен адмаўляць у імкненні народа авалодваць літаратурным варыянтам мовы.

І яшчэ адна важная асаблівасць: беларускі народ павінен усвядоміць неабходнасць, жыццёвасць беларускай мовы ва ўсіх сферах жыцця — у зносінах, быце, выхаванні, адукацыі, навуцы, культуры, тэхніцы, эканоміцы, справаводстве, адным словам, ва ўсім. А для гэтага неабходна стварыць усе ўмовы. І асноўная з іх (як добра, што яна ўжо ў нейкай ступені выканана) — дзяржаўнасць мовы.

Вось, на маю думку, тыя шляхі, што могуць у нашай сітуацыі выратаваць беларускую мову ад катастрофы, вярнуць яе народу.

**Мікалай КРЫЎКО,**
навуковы супрацоўнік
Інстытута мовазнаўства
імя Якуба Коласа АН БССР,
кандыдат філалагічных
навук.

## З гаворкі в. Грабава Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці

Абшчагіля́ць. Пераўзысці каго-небудзь у чым-небудзь. Ну што, бацько, абшчыгіляў цебе Ладымер?

Адгрыма́чыць. Надаваць кухталёў. Ні лезь, бо адгрымачу так, што больш ні захочаш.

Астадо́ліцца. Уціхамірыцца, угаманіцца, спыніцца. Пара ўге і адстадоліцца, дакуль гетак можна, ні дзіця ўге.

Бу́лба. Рэпа. Булба геты год вельмі велікая парасла.

Бры́скаць. Пырскаць. Атыдзі ад вады, не брыскайса.

Верхаво́дка. Тонкі лёд. Хлопцы, пашлі на верхавотку.

Го́ўе. Агульная назва жывёл. Гоўе і тэе ласку любіць.

Дак. Дык. Кончыў работу дак ідзі дамоў, а ні стой кале магазіна.

Даўна́ць. Бурчаць. Дакуль ты даўнаць будзеш, хваціць уге.

Дачвара́ць. Вытвараць. Што гето ву тут дачваралі, уся падлога ў смецці.

Дзе́раво. Дрэва. Нашто ты гетае дзераво ссек, хай бу расло.

Жаўтапе́с. Пясчаная глеба. Хіба тут нешто вурасце на гетом жаўтапесу?

Захлупі́цца. Задыхнуцца. Надымілі ў хаці, што захлупіцца можна.

Зво́ды. Плёткі. І вечно ты зводамі займаесса, ні надаесь табе.

Злы́дзень. Абжора. Ну і злыдзень, сковараду сала сам з'еў.

Каўзо́та. Слізота. Каўзота, на вуліцы іці ні можна.

Ке́рзаць. Абы што пісаць або рысаваць. Нашто ты закерзоў чыстую чытрадзь? Не трэба керзаць!

Кізо́к. Насціл у хляве. Злезь на кізок, пабач мо куры знесліса.

Ко́дло. Адзін род. Ты пабач ек за его заступаецца. А як жэ, мо ж аднэ кодло.

Ле́цен. Калідор. Цепер цёпло, можно і ў летні воду паставіць.

На́хлупка. Пра панурага чалавека. Чаго седзіш, нахлупка, ідзі карові дай.

Омарака. Моцны боль у галаве. Нанюхаласа мабуць багольніку — як узела мене омарака, чуць дамоў прышла.

Паршу́к. Прышчык. Што гето за паршукі ў цебе паселі? Мо трэба було чым памазаць?

Паха́туха. Чалавек, які любіць хадзіць па чужых хатах. Ну што, пахатуха, вечэраць табе ні трэба?

Пацыка́ць. Злаваць. Ні пацыкай ее, а то заробіш.

Плюскачы́. Яшчэ не спелые семачкі гарбуза. Кагецца і гарбуз жоўты быў, а адны плюскачы.

Расама́ха. Неахайны чалавек. Расамаха ты, хоць бу трохі прыбраласа.

Сіня́ўка. Шчупак. На бухці сіняўкі ловецца.

Таўды́. Тады. Му зашлі ў магазін, а таўды ўге дамоў.

Уге́. Ужо. Уге скоро картоплі капаць трэба.

Шкра́нда. Скнара. Шкранда ты, я тожэ табе нічого ні дам.

Шчыгі́льно. Прыгожа. Ты шчыгільно хадзіць хочэш, а дзе ж я табе грошэй наберуса.

Аляксей ЛАЎШУК.

## ЭМБЛЕМА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

*Мастак*
*Мікола КУПАВА*




**Эмблема выканана ў класічных традыцыях беларускай гістарычнай геральдыкі і яе правілаў. У крузе на блакітным фоне залатая выява герба Францішка Скарыны — сонца і паўмесяц. Са знешняга боку круга надпіс: Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Угары круга змяшчаецца гістарычны герб Вялікага княства Літоўскага — Пагоня. Чырвонае поле шчыта; выява конніка — срэбраная; угары перакрывае круг і аблямоўвае шчыт бела-чырвона-белая стужка,— усё гэта сімвалы гістарычнай памяці нашага народа, якія знітоўваюць лепшыя дасягненні нацыянальнай культуры, значныя падзеі народнай гісторыі, незалежнасць і дзяржаўнасць беларускага народа і дзяржаўнасць беларускай мовы як у старажытныя часы, так і ў гістарычнай перспектыве.**

**Эмблема зацверджана Рэспубліканскай Радаю ТБМ імя Ф. Скарыны.**



## КАБ НЕ СТРАЦІЦЬ НАБЫТКІ ТЫСЯЧАГОДДЗЯ

Еду і еду па сёлах Зарэчанскага раёна Ровенскай вобласці. Усе надпісы, шыльды — на украінскай мове, толькі на дзяржаўных і партыйных установах — яшчэ і на рускай. Пераязджаю мяжу з Беларуссю, у Пінскі раён. Тут усе надпісы і шыльды — на рускай мове, толькі на дзяржаўных і партыйных установах — яшчэ і на беларускай. Тое самае і ў Жыткавіцкім раёне Гомельскай вобласці.

Канадскі ўрад прыняў рашэнне пра адкрыццё ў Канадзе шэрагу ўкраінскіх школ для дзяцей украінцаў. А ў Беларусі, у паўтарамільёным Мінску, былі ліквідаваны ўсе беларускамоўныя школы, ліквідаваны беларускія школы ў іншых гарадах, гарадскіх пасёлках і многіх вёсках. У многіх г. зв. беларускамоўных школах выкладанне большасці прадметаў вядзецца на рускай мове, у тым ліку і настаўнікамі, якія раней выкладалі іх па-беларуску.

У 1948 годзе ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый дэлегацыя БССР ад імя свайго ўрада падтрымала ўтварэнне незалежнай дзяржавы Ізраіль і гэтым прызнала гістарычную неабходнасць захавання і развіцця яўрэйскага этнасу, аднаўлення яўрэйскай нацыі. Былі праяўлены гуманізм і высакародны інтэрнацыяналізм да народа, які быў асуджаны фашызмам на знішчэнне і выратаваны дзякуючы гераічнай барацьбе свабодалюбівых народаў, у тым ліку і беларускага. А вось у адносінах да свайго народа ўрад БССР праводзіў палітыку паскоранага аслаблення беларускага этнасу, ігнаравання ягоных мовы і культуры, гісторыі і традыцый. Вынікам гэтага з'явілася пагроза асіміляцыі беларускага народа, знікненне яго як этналінгвістычнай еднасці.

Я думаю, што вырашэнне сацыяльна-эканамічных і экалагічных задач немагчымае без засваення набытага продкамі духоўнага вопыту, без авалодання цяперашнімі беларусамі духоўнай культурай, якую стварыў народ за сваю тысячагадовую гісторыю. Гэта — неабходная ўмова для выяўлення і развіцця эмацыянальных, фізічных і інтэлектуальных здольнасцей чалавека, далучэння да сусветнай культуры.

Мікола САСКЕВІЧ,
супрацоўнік Інстытута фізікі АН БССР.

## Раённыя і гарадскія арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, зарэгістраваныя ў Сакратарыяце ТБМ на 29 сакавіка 1990 г.

### Брэсцкая вобласць
1. Баранавіцкая гарадская рада.
2. Брэсцкая гарадская рада.
3. Жабінкаўская раённая рада.
4. Івацэвіцкая раённая рада.
5. Пружанская раённая рада.
6. Столінская гарадская рада.

### Віцебская вобласць
1. Віцебская гарадская рада.
2. Докшыцкая раённая рада.
3. Наваполацкая гарадская рада.
4. Пастаўская раённая рада.
5. Полацкая гарадская рада.
6. Полацкая раённая рада.
7. Ушацкая раённая рада.

### Гомельская вобласць
1. Гомельская гарадская рада.
2. Жлобінская аб'яднаная раённа-гарадская рада.
3. Мазырская гарадская рада.
4. Рэчыцкая раённая рада.

### Гродзенская вобласць
1. Астравецкая раённая рада.
2. Гродзенская раённая рада.
3. Дзятлаўская раённая рада.
4. Лідская гарадская рада.
5. Лідская раённая рада.
6. Мастоўская раённая рада.
7. Навагрудская раённая рада.
8. Слонімская гарадская рада.

### Магілёўская вобласць
1. Асіповіцкая раённая рада.
2. Бялыніцкая раённая рада.
3. Касцюковіцкая раённая рада.
4. Магілёўская гарадская рада.
5. Першамайская раённая рада г. Бабруйска.

### Мінская вобласць
1. Барысаўская гарадская рада.
2. Барысаўская раённая рада.
3. Вілейская раённая рада.
4. Дзяржынская раённая рада.
5. Заслаўская гарадская рада.
6. Капыльская раённая рада.
7. Лагойская раённая рада.
8. Маладзечанская аб'яднаная раённа-гарадская рада.
9. Мінская раённая рада.
10. Пухавіцкая раённая рада.
11. Слуцкая раённая рада.

### г. Мінск
1. Заводская раённая рада.
2. Кастрычніцкая раённая рада.
3. Ленінская раённая рада.
4. Маскоўская раённая рада.
5. Мінская гарадская рада.
6. Партызанская раённая рада.
7. Першамайская раённая рада.
8. Савецкая раённая рада.
9. Фрунзенская раённая рада.
10. Цэнтральная раённая рада.
11. Рада ТБМ АН БССР (на правах раённай).

## Гарадская арганізацыя ТБМ у Брэсце

4 снежня мінулага года адбыўся ўстаноўчы сход гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы ў Брэсце. На ім былі прадстаўлены 39 суполак, якія дзейнічаюць у трынаццаці школах горада, педагагічным інстытуце, на трох прадпрыемствах, чыгуначным вузле, у мемарыяле «Брэсцкая крэпасць-герой», краязнаўчым музеі, у двух тэатрах, на радыё і тэлебачанні. На сходзе выбраны рада і яе сакратарыят.

На пасяджэнні рады, якое было склікана пазней, вызначаны напрамкі дзейнасці, створаны чатыры рабочыя групы: арганізацыйна-прапагандысцкая, культурна-асветніцкая, пашырэнне беларускай мовы ў навучальна-выхаваўчым працэсе і ў афармленні горада на беларускамоўны лад.

У складзе рады — выкладчыкі кафедраў мовы і літаратуры педінстытута, брэсцкія літаратары, настаўнікі школ, работнікі культуры, сакратары партыйных і камсамольскіх арганізацый.

Станіслаў РАЧЭЎСКІ,
старшыня рады Брэсцкай гарадской арганізацыі ТБМ.

• • •

## Сябры ТБМ — народныя дэпутаты БССР

1. Баршчэўскі Л. П. — Маладзёжная акруга № 174, г. Наваполацк.
2. Вярцінскі А. І. — Ракасоўская акруга № 5, г. Мінск.
3. Галубовіч В. М. — Трактаразаводская акруга № 24, г. Мінск.
4. Гілевіч Н. С. — Красненская акруга № 77, Маладзечанскі раён.
5. Даўлюд А. У. — Чырвонаармейская акруга № 256, г. Ліда.
6. Краўчанка П. К. — Аўтазаводская акруга № 8, г. Мінск.
7. Новік У. У. — Чыгуначная акруга № 18, г. Мінск.
8. Садоўскі П. В. — Адзінцоўская акруга № 46, г. Мінск.
9. Сярэдзіч У. П. — Пінская-Усходняя акруга № 133, г. Пінск.
10. Трусаў А. А. — Мірашнічэнкаўская акруга № 33, г. Мінск.
11. Цумараў Я. А. — Шабаноўская акруга № 10, г. Мінск.
12. Шушкевіч С. С. — Адоеўская акруга № 44, г. Мінск.
13. Шачак В. М. — Маладзёжная акруга № 84, г. Слуцк.

ЗАЎВАГА: па выніках выбараў 4 і 18 сакавіка; больш поўныя звесткі будуць апублікаваны ў майскім нумары бюлетэня.

• • •

## ДЗЯКУЕМ!

Са снежня 1989 па красавік 1990 года ахвяравальныя ўклады на рахунак ТБМ 700510 у Беларускім рэспубліканскім Жылсацбанку зрабілі наступныя прадпрыемствы, установы і асобы:

| | |
|---|---|
| 26.XII.1989 г. | Данчык і Л. Барткевіч. |
| 27.XII.1989 г. | ІВЦ Міністэрства фінансаў БССР. |
| 28.XII.1989 г. | Гомельскі завод «Хімвалакно». |
| 28.XII.1989 г. | Выдавецтва «БелСЭ» імя П. Броўкі. |
| 22.I.1990 г. | Цумараў Я. А. |
| 23.I.1990 г. | Кузьміцкі Б. Б. |
| 26.I.1990 г. | Разанаў Г. Н. |
| 26.II.1990 г. | Беларускае аб'яднанне «БелаўтаМАЗ». |
| 09.II.1990 г. | Скурко Я. І. (Максім Танк). |
| 09.II.1990 г. | Шамак А. А. |
| 09.II.1990 г. | НВА «Цэнтр». |
| 10.II.1990 г. | Крыловіч С. І. |
| 22.II.1990 г. | Жуковіч В. А. |
| 23.III.1990 г. | Гамзовіч Р. С. |

Шчыра дзякуем спонсару ТБМ — Дзяржаўнаму камітэту БССР па друку, які ўзяў на сябе асноўныя матэрыяльныя выдаткі па выданню«Нашага слова», асабіста старшыні Камітэту т. Макаловічу І. П. і першаму намесніку старшыні т. Нічыпаровічу С. А., з боку якіх мы спаткалі поўнае разуменне і падтрымку.




Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.

Бюлетэнь выходзіць раз на месяц.
Выданне безганарарнае.

Тыраж 6500 экз. Заказ 2173.
Аддрукавана на Мінскай фабрыцы «Чырвоная Зорка» МВПА імя Якуба Коласа